НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 4 (793) 30 студзеня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Дразды

## Царскае сяло



Чыноўнікі збудавалі сабе Еўропу ў межах аднаго квартала. Старонка 3. На фота: Дразды, фота са званіцы Пакроўскай царквы, зробленая ўвесну 2012.

**Тэхналогіі**

### Маем свой граніт, але дарогі солім

Чым пасыпаюць беларускія дарогі.
**Старонка 6.**



**Крымінал**

### У мінскай кватэры знайшлі трупы замарожаных дзяцей

Магчыма, іх хацелі прадаць на стваловыя клеткі. **Старонка 10.**



**Літаратура**

### Матылі і камяні Паліны Качатковай

Чаму таленавітая пісьменніца больш не піша?
**Старонка 11.**



**Здароўе**

### За тыдзень ён скідае 5 кг

Прынцыпы дыеты Віталя Цыганкова.
**Старонка 15.**



# Электрычнасць і газ: новая сістэма разліку

Восенню мінулага года ўрад прапанаваў беларусам прагаласаваць у інтэрнэце: за тое, каб тарыфы на энергію былі дыферэнцыяванымі альбо за захаванне адзінага тарыфу. Людзі амаль адзінадушна падтрымалі другую прапанову, аднак улады ўсё ж абралі першы варыянт.

Такім чынам, ад 1 лютага электраэнергія даражэе на 18%. Жыроўкі з новымі лічбамі беларусы атрымаюць у пачатку сакавіка. У дадатак тарыфы будуць дыферэнцыяванымі. Падобная схема раней прымянялася ў падліку камунальных працяжоў за ваду. Вось толькі цана электраэнергіі не залежыць ад колькасці чалавек, зарэгістраваных у кватэры.

Калі лічыльнік сведчыць пра тое, што сям'я ўкладаецца ў вызначаны «сацыяльны» ліміт, яна заплаціць за электрычнасць па меншым тарыфе (гл. табліцу). Калі пяройдзе за яго, будзе плаціць за кожную наступную спажытую кВт·г на 30% больш. Нарэшце, дайшоўшы да вызначанага максімуму, рэшту электраэнергіі давядзецца плаціць па тарыфах, якія «забяспечваюць поўнае кампенсаванне стратаў».

Возьмем прыклад сям'і ў кватэры з электрычнай плітой. Дапусцім, яны палілі святло неэканомна, і лічыльнік накруціў ажно 500 кВ·г. Першыя 250 кВ·г будуць лічыцца па меншым тарыфе (81 225 рублёў), наступныя 150 кВ·г — па сярэднім (яшчэ 63 355,5 рубля) і апошнія 100 кВ·г — па высокім (плюс 84 170 рублёў). Такім чынам, усяго такая сям'я заплаціць 228 750 рублёў Яшчэ месяц таму за такі ж аб'ём спажытай энергіі давялося б заплаціць 137 200 рублёў.

Як паказвае практыка, большасць сем'яў упішацца ў новыя тарыфы. А вось вялікім сем'ям ці жыхарам вялікіх кватэр прыйдзецца эканоміць.

**ЯМ**

| Пліта | Газавая | | | Электрычная | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Аб'ём спажывання | менш за 150 кВт·г | 150—300 кВт·г | больш за 300 кВт·г | менш за 250 кВт·г | 250—400 кВт·г | больш за 400 кВт·г |
| Тарыф | 382,4 | 497,12 | 841,7 | 324,9 | 422,37 | 841,7 |

* Павялічаныя тарыфы не распаўсюджваюцца на шматдзетныя сем'і, сем'і інвалідаў I групы ды іншыя катэгорыі льготнікаў

**Авансавы плацеж**

Нікто не забараняе 30 і 31 студзеня заплаціць за электрычнасць «наперад». Вас разлічаць па старых тарыфах. Праўда, возьмуць невялікую пеню. Без пені электрычнасць можна аплачваць толькі да 25-га дня кожнага месяца.

**Электрычнасць падаражэла на 18%**

Ад 1 лютага па першай стаўцы плаціць будзем 382,4 рубля за 1 кВт·г (раней плацілі 323 рублі).

У дамах з электраплітамі плата складзе па базавым тарыфе 324,9 рубля за 1 кВт·г (цяпер — 274,4 за 1 кВт·г).

**Каму выгадна**

- Прыродзе — чым менш электрычнасці і газу спажываем, тым меншыя выкіды ў атмасферу.
- Бюджэту — меншыя датацыі на ЖКГ.
- Ураду — павелічэнне камуналкі — умова для атрымання чарговага крэдыту ад Расіі.
- Эканомным людзям — электрычнасць не будзе даражэць так хутка, як гэта было б пры адзіным тарыфе.
- Вытворцам энергаашчаднай тэхнікі — зараз людзі будуць прыглядацца, колькі энергіі ядуць канкурэнтныя мадэлі.

**Каму нявыгадна**

- Вялікім сем'ям — укласціся ў ліміт складана.
- Уласнікам прыватных дамоў з газавым ці электрычным ацяпленнем — узімку плацяжы вырастаюць істотна.
- Уласнікам вялікіх дамоў — плацяжы вырастуць істотна.



**Рыса**

### Лідзіі Ярмошынай споўнілася 60

Пра гэты факт паведамляе ў рубрыцы «Гэты дзень у гісторыі» «Советская Белоруссия». «Дзяржаўны дзеяч, заслужаны юрыст», — так характарызуе газета нязменную старшыню Цэнтравыбаркама.





**Фотафакт**

Першае расійскае «чатырохдзвернае купэ» трапіць у продаж у сакавіку. Яго выпуск наладзіў завод, збудаваны кампаніяй «Дэу» ў Таганрогу. Аўтамабіль будзе называцца ТагАЗ Aquila. Яго 1,6-літровы бензінавы матор магутнасцю 107 конскіх сілаў вырабляюць у Кітаі. Ён збіраецца па ліцэнзіі Mitsubishi. Каштаваць машына будзе ад $13,7 тыс.

Дагэтуль ТагАЗ існаваў як зборачная вытворчасць Daewoo і Hyundai. Апошнія гады завод балансуе на мяжы банкруцтва.

**ЯЗ**

**Сціслa**

**Беларусь наведаў прадстаўнік Дзярждэпа ЗША**

Каардынатар дапамогі ЗША Еўропе і Еўразіі Дзяржддэпартамента ЗША Даніэль Разенблюм 29 студзеня сустрэўся ў Мінску з прадстаўнікамі апазіцыі. Невядома, ці меў ён сустрэчы з чыноўнікамі. Але пра ўзаемадачыненні з ЗША і Захадам гаварылася ў аўторак і на сустрэчы Лукашэнкі з міністрам замежных справаў Уладзімірам Макеем. Кіраўнік дзяржавы ўзгадніў прапановы МЗС, «накіраваныя на далейшую актывізацыю працы з заходнімі партнёрамі». Пасля Плошчы адносіны паміж Беларуссю і ЗША фактычна былі замарожаныя.

**Лукашэнка — дактарам: Хопіць ужо плакацца**

«Так, мы заробак павысім, аптымізуючы, лішняе прыбяром, але і патрабаваць будзем», — сказаў Аляксандр Лукашэнка, наведваючы РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі ў Мінску. «Хопіць ужо плакацца, што ў нас дактары — жабракі, бедныя, сякія-такія. Усе атрымліваюць аднолькавую адукацыю, — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

**Тэлеканал «Беларусь-3» пачне трансляцыю**

Старт прызначаны на 8 лютага. Ён мае стаць аналагам расійскага канала «Культура».

**Украіна: асуджаны генерал**

Кіеўскі суд асудзіў да пажыццёвага зняволення экс-начальніка дэпартамента вонкавага назірання МУС Украіны Аляксея Пукача за перавышэнне паўнамоцтваў і забойства журналіста Георгія Гангадзэ.

**Машына для адсякання рук**

Іран прадставіў публіцы машыну для адсякання рук. Такая мера пакарання ў Ісламскай рэспубліцы выкарыстоўваецца да злодзеяў. Першая ампутацыя прайшла публічна на плошчы горада Шыраз.

**Напалі на валацуг, забралі прадукты**

У Маладзечне 18-гадовы і 15-гадовы збілі двух прахожых. І што тут незвычайнага, скажаце? Яно ў тым, што юнакі паднялі руку на людзей, каб забраць у іх прадукты на 125 тысяч рублёў. Пацярпелымі аказаліся непрацуючыя жыхары вёсак Вязынка Маладзечанскага і Людвінова Вілейскага раёнаў.

**ЗП; МБ; інф. БелТА, Kraj.by**

# Царскае сяло: хто ў ім жыве?

Чыноўнікі і бізнэсоўцы **пабудавалі сабе Эўропу** ў асобна ўзятым квартале.

Побач з рэзідэнцыяй «Дразды» Аляксандра Лукашэнкі, на беразе Свіслачы на паўночным захадзе Мінска, за апошнія 10 гадоў вырас утульны катэджавы пасёлак. На некалькіх квадратных кіламетрах тут можна сустрэць цяперашняга і былых прэм'ераў, старшынь палатаў, міністраў, бізнэсмэнаў, хакеістаў ды іншых няпростых беларусаў.

Гісторыя гэтага клубнага пасёлка пачалася ў сярэдзіне 2000-х, калі многім чыноўнікам надышла прапанова пабудавацца на выгадных умовах катэдж непадалёку ад рэзідэнцыі Аляксандра Лукашэнкі.

Кошт будаўніцтва быў параўнальна невысокім, да таго ж, можна было ўзяць крэдыт. Інфляцыя, дзве дэвальвацыі — усё гэта зменшыла фактычную канчатковую цану.

### Як стаць мільянерам

У Расіі вядомасць атрымаў дачны кааператыў «Возера». Ён быў створаны ў 1996 годзе з удзелам Уладзіміра Пуціна, тады чыноўніка ў пецярбургскай мэрыі. З цягам часу ён стаў кіраўніком дзяржавы, а ягоныя «азёрныя» кампаньёны — міністрамі ці бізнэсоўцамі-мільярдэрамі.

Беларусы з Драздоў да мільярдэраў яшчэ не дараслі, але даляравымі мільянерамі іх робяць самі гэтыя дамы. Катэджы на гэтых вуліцах прадаюцца ад $1,5 мільёна з голымі сценамі да $2,5 мільёна з поўным аздабленнем. Столькі каштуе шанец стаць суседам Уладзіміра Канаплёва ці Юрыя Чыжа.

Нават пры змене ўлады ці ў выпадку раптоўнай адстаўкі жыхары Драздоў змогуць забяспечыць не толькі сваіх дзяцей, але і ўнукаў, і праўнукаў, проста прадаўшы дом. Не дзіва, што нават адстаўнікі накшталт былога міністра ўнутраных спраў Уладзіміра Навумава ці былога кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Урала Латыпава не спяшаюцца збываць элітную нерухомасць, хоць даўно перабраліся ў Маскву.

### Месца для выбраных

Уся тэрыторыя Драздоў ужо забудавана, больш разрастацца няма куды. У іх пад 150 катэджаў.

Залатыя кварталы пачынаюцца адразу за Святапакроўскай царквой на праспекце Пераможцаў. У яе гонар галоўная вуліца Драздоў называецца Пакроўскай. Яшчэ нядаўна на картах яна была падпісана як Срэбнае кальцо. Суседнія завулкі маюць адпаведныя назвы — Агатавы, Ізумрудны, Залаты... У дадатак да апошняга ёсць яшчэ і Залатая вуліца. «Месца для выбраных» — так называюць гэты раён у буклетах рыэлтараў.

Наўпрост насярод вуліцы тут можа стаяць міліцэйскі пост, а на скрыжаваннях адвольна раскіданыя дарожныя знакі «Уезд забаронены», якія не дазваляюць заязджаць сюды нікому, апроч гаспадароў. Выпадковых людзей тут не чакаюць.





Асабняк, пабудаваны ў класічным стылі, належыць бізнэсмэну Віктару Шаўцову.


У Міхаіла Мясніковіча катэдж вылучаецца акуратнымі аркадамі на фасадзе.

**Жыхары трох вуліц, сацыялагічны зрэз** (улічаны толькі тыя прозвішчы, што на слыху)

Цывільныя чыноўнікі — 15
Сілавікі — 9
Бізнэсоўцы — 4
Тэлевізійшчык — 1
Спартсмен — 1
Святар — 1
Дзеячаў культуры — 0

### Розныя ўзроўні сакрэтнасці?

Інфармацыя пра тое, хто жыве на завулках Агатавым і Ізумрудным, а таксама вуліцы Рачной, ёсць, як аказалася, у адкрытым доступе.

Жыхары суседніх Азёрнага і Пакроўскага завулкаў знаходзяцца — выпадкова ці не — на іншым узроўні сакрэтнасці. Звестак пра тое, каму належыць той ці іншы катэдж у тых завулках, няма. Але вядома, што акурат там месціцца дом, напрыклад, былога старшыні палаты прадстаўнікоў Уладзіміра Канаплёва, які цяпер узначальвае Федэрацыю гандбола Беларусі. Непадалёку пражываюць і іншыя ўплывовыя людзі — Лідзія Ярмошына, Уладзімір Макей, Наталля Пяткевіч.

Каб не парушаць таямніцы прыватнага жыцця, мы не называем канкрэтных адрасоў уласнікаў катэджаў. Зрэшты, мы самі здзівіліся, што інфармацыя пра тое, каму належыць які будынак, ёсць у адкрытым доступе.

Працяг на старонцы 4.

**Што ўяўляюць сабой элітныя катэджы?**


**Катэдж за $2,5 мільёна.**


**У вялікіх холах можна гуляць у футбол. Але перспектыўней — у хакей.**

Трапіць у госці да Юрыя Чыжа ці Паўла Тапузідзіса складана, але можна даведацца, як выглядаюць сціплыя дамы на суседніх вуліцах.

На фота адзін з іх, на Пакроўскім завулку, які выстаўлены на продаж на сайце realt.by за $2,5 мільёна, з участкам на 11,75 соткі. Фармальна катэдж двухпавярховы, але ў рэальнасці мае чатыры ўзроўні. Пройдземся па іх.

На цокальным паверсе знаходзіцца зона рэлаксацыі: фітнэс-зала (33,5 м²), камінная зала (37 м²), фінская саўна, пакой для адпачынку, а таксама санвузел, кацельня, дзве кладоўкі, гардэроб і хол на 18,6 м².

Уздымаемся вышэй. Тут ёсць гасцiная (70 м²), якая ўтварае адзіную прастору з кухняй-сталовай (яшчэ 13,6 м²). Свежую прэсу можна пачытаць на тэрасе (29 м²). З хола ёсць уваход і ў вялікі гараж на дзве машыны. Адзін жылы пакой займае 33,1 м².

Другі паверх заняты спальнямі, іх тры, прычым кожная з уласнай гардэробнай. Паміж імі хол (30 м²) і кабінет (14,7 м²). Нарэшце, ёсць і два санвузлы (агулам — 23,8 м²).

На мансардзе можна знайсці хол (32,6 м²), кладоўку і хатні кінатэатр (23 м²).

І пару словаў пра ўнутранае аздабленне. Падлога на першым паверсе і ва ўсіх санвузлах з падагрэвам, лесвіца зробленая з натуральнага дрэва з прыступкамі з нямецкай пліткі. На сценах — бельгійскія і нямецкія шпалеры.

Ці такія ж дамы ў беларускай эліты? Часам нават лепшыя. У апісанай вышэй хатцы, напрыклад, няма басейна. А вось некаторыя высокія чыноўнікі ад такога бонуса не адмаўляюцца.

Працяг са старонкі 3.

# Царскае сяло:


Дом Віктара Шэймана закрыты да дарогі высокім плотам. Падысці можна толькі з боку суседзяў.

### Агатавы завулак

Прынцып, па якім размяркоўваліся ўчасткі для забудовы, зразумець складана. Ці чыноўнікі самі выбіралі, каму дзе жыць, ці кідалі жэрабя.

Напрыклад, у Агатавым завулку з вядомых людзей збудаваўся цяперашні кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта, а да таго — віцэ-прэм'ер і пасол у Расіі **Андрэй Кабякоў**. Падчас будаўніцтва Драздоў ён сядзеў акурат ва ўрадавым крэсле.

Ягоны сусед — былы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта **Аляксандр Папкоў**. Цяпер ён сядзіць у палаце прадстаўнікоў ужо другі тэрмін.

Пабудаваны ў класічным стылі дом з асобным гаражом належыць бізнэсмэну **Віктару Шаўцову**, які нядаўна быў амніставаны Аляксандрам Лукашэнкам. «Трастбанк» і «Белзамежбуд», якія кантраляваў Шаўцоў, — гэта шматмільённы бізнэс.

**Не Драздамі адзінымі**

Адкуль чыноўнікі пераехалі ў Драздy?

Сям'я Віктара Шэймана раней жыла ў новым доме на вуліцы Азгура, цяпер там гаспадарыць сын Сяргей.

Кіраўнік АНТ Рыгор Кісель раней жыў у Зялёным Лузе.

А Лідзія Ярмошына дагэтуль мае сціплую кватэру на ўскрайку мінскага спальнага раёна Масюкоўшчына.

Сямейства праваслаўных святароў Поўных аблюбавала дом на Старажоўскай з маляўнічым відам на Свіслач. У адной з кватэр жыве протаіерэй Генадзь (брат айца Фёдара), а ў суседняй — Ганна Фёдараўна Поўная.

Цікава, што яшчэ некалькі гадоў таму ў протаіерэя Фёдара Поўнага была яшчэ адна кватэра ў доме на Старажоўцы. Цяпер яе перакупілі іншыя людзі. Новая ўласніца — Ганна Уладзіміраўна Пефціева. Уладзімір Пефціеў, нагадаем, быў уласнікам кампаніі «Белтэхэкспарт» ды іншых сумежных бізнэсаў.


Белы дом з зялёнымі вокнамі стаіць наводшыбе. Ягоны гаспадар — былы генпракурор Рыгор Васілевіч.


Андрэй Кабякоў год пажыў у Маскве, але вярнуўся ў Беларусь, а значыцца, і ў Драздy.

Сціплы дом па суседстве пабудаваў нязменны старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда **Віктар Камянкоў**. Ён пры пасадзе ўжо дванаццаты год — рэдкае доўгажыхарства для лукашэнкаўскіх чыноўнікаў.

Былы старшыня КДБ **Леанід Ерын** і былы міністр унутраных спраў **Віктар Навумаў** у сваіх катэджах з'яўляюцца зрэдку. Сілавікі, якія страцілі пасады, цяпер звязалі сваё жыццё з Расіяй.

Доўга не было дома і кіраўніка пагранічных войскаў **Аляксандра Паўлоўскага**. Апошнія пяць гадоў ён прабыў паслом у Францыі. Пасля прызначэння на гэтую пасаду Паўла Латушкі Паўлоўскі застаўся без працы.

### Ізумрудны завулак

Як і Агатавы, гэты завулак тупіковы. Заезд у яго адкрыты з вуліцы Пакроўскай. Па кожным з бакоў завулка знаходзяцца па пяць катэджаў, дарога міма якіх заканчваецца колам і стаянкай для аўтамабіляў гасцей. Для машын гаспадароў у дамах прадугледжаныя цёплыя гаражы.

Сярод самых уплывовых жыхароў тут прэм'ер-міністр **Міхаіл Мясніковіч**. Катэдж ён будаваў яшчэ ў статусе старшыні Прэзідыума Акадэміі навук. Побач з ім жывуць былы спікер палаты прадстаўнікоў **Вадзім Папоў** і галоўны мытнік **Аляксандр Шпілеўскі**.

У гэтым жа тупіку стаяць катэджы банкіркі **Надзеі Ермаковай**, якой не трэба дзве пары імпартных туфляў, і адстаўнога старшыні Канстытуцыйнага суда і пракурора **Рыгора Васілевіча**.

Тут жыве і **Валерый Мазоўка.** Менавіта ягоны трэст «Прамбуд» узводзіў катэджы ў Драздах.

Амбасадар **Уладзімір Дражын** жыве паміж Беларуссю і Літвой ужо сёмы год. Дом у Драздах ён займеў у якасці віцэ-прэм'ера.

**Уладзімір Сямашка** застаецца на месцы першага віцэ-прэм'ера ўжо дзясяты год, куды прыйшоў з пасады міністра энергетыкі. Ягоны былы першы намеснік, энергетык **Эдуард Таўпянец**, жыве непадалёку. У міністры ён так і не прабіўся.

Апошні дом на Ізумрудным належыць **Генадзю Курачкіну**. Ён быў міністрам архітэктуры і будаўніцтва ў 1999—2006 гадах, пасля чаго Лукашэнка заявіў, што Курачкіна даўно трэба было пасадзіць.


Пятро Пракаповіч жыве насупраць Шэймана.


Катэдж Юрыя Чыжа.

### Вуліца Рачная

Ва ўсходняй частцы вуліцы Рачной можна сустрэць людзей трохі з іншых слаёў грамадства.

Тут у пачатку вуліцы знаходзіцца катэдж уладальніка гіпермаркетаў «Карона» і кампаніі «Тытунь-Інвест» грэка **Паўла Тапузідзіса**. Цяпер ён аблюбаваў узбярэжжа Заслаўскага вадасховішча пад Ратамкай, дзе мае верталётны клуб, а ў драздоўскім доме ідзе рамонт.

Зусім блізка ад яго жывуць уласнік самай вялікай бізнэс-імперыі Беларусі **Юрый Чыж** і трэнер хакейнага «Юнацтва» **Міхаіл Захараў**. На днях маладая жонка трэнера выклала ў сацыяльную сетку свае здымкі на фоне дома і шыкоўнага «Бэнтлі». Пасля таго як фота пераставілі многія сайты, Марына Ермаловіч-Захарава палічыла за лепшае зусім выдаліцца з сеткі.

На тэрыторыі ўчастка кіраўніка АНТ **Рыгора Кісяля** адразу два вялікія збудаванні — сам дом і га-

# хто ў ім жыве?

раж. Побач з ім жыве адзін з першых паплечнікаў Лукашэнкі, новы кіраўнік справаў прэзідэнта **Віктар Шэйман**. Цікава, што карэспандэнтаў «НН» аббрахалі сабакі толькі каля яго дома.

Каля Шэймана абасналіся даўні віцэ-прэм'ер **Анатоль Тозік**, новапрызначаны віцэ-прэм'ер (а ў часе пабудовы — кіраўнік Нацыянальнага банка) **Пятро Пракаповіч** і былы прэм'ер-міністр **Сяргей Сідорскі**.

Вуліца Рачная багатая на прэм'ераў. Свой дом тут мае і **Генадзь Навіцкі**, які пасля нядоўгага кіравання ўрадам перасеў у бесклапотнае крэсла ў савеце рэспублікі.

## І айцец Фёдар

Двое мясцовых сілавікоў, якія адышлі ад справаў, — **Генадзь Нявыглас** і **Урал Латыпаў**. Апошні ўжо даўно асеў у Маскве.

Катэдж пабудаваў і непублічны **Мікалай Корбут**, які нядаўна саступіў пасаду кіраўніка справаў прэзідэнта Шэйману.

З малазнаёмых людзей варта ўзгадаць сям'ю расійскага мільярдэра **Уладзіміра Груздзева**. Ён з'яўляецца акцыянерам расійскай сеткі крамаў «Сёмы кантынент», а раней кантраляваў буйны пакет акцый крамаў «Прастор», пасля прададзены Юрыю Чыжу. Цяпер Груздзеў з'яўляецца губернатарам Тульскай вобласці. Домам валодае ягоная маці Нэлі.

А катэдж **айца Фёдара Поўнага** — настаяцеля Усіхсвяцкага прыхода і апекуна мінскага Дома міласэрнасці — складана пераблытаць з суседнімі. Фасад ягонага дома ўпрыгожвае круглая ікона.

## Еўропа па-савецку

У савецкія часы наменклатура атрымлівала без чаргі трохі большыя кватэры. Цяпер гэта вялікія дамы.

У савецкія часы чыноўнікі жылі ўперамежку з дзеячамі культуры і навукі. Цяпер — амаль выключна з бізнэсоўцамі і спартоўцамі.

Калі параўнаць з ладам жыцця топ-чыноўнікаў і бізнэсоўцаў Расіі ці Украіны, беларускія чыноўнікі і гаспадарнікі жывуць нашмат сціплей. І памеры дамоў меншыя, і не афішуюць яны сваёй заможнасці. Таго патрабуюць нормы этыкі, якія не раз публічна агучваў Лукашэнка: «не выстаўляць багацця напаказ». Але ж дамы ў Драздах дарагія: з нятанных матэрыялаў, з немалымі па гарадскіх мерках участкамі. І галоўнае — у супердарагім месцы, каля праспекта Пераможцаў.

Але ў параўнанні са Швецыяй, Чэхіяй ці Літвой выглядае такое Царскае сяло дзіўнавата. Па-першае, там не прынята, каб улада належала нейкай касце, якая нават жыве ў асобных пасёлках. Па-другое, сам працэс адначасовага будаўніцтва чыноўнікамі і бізнэсмэнамі катэджаў у адным пасёлку стаў бы аб'ектам грамадскай увагі.

Пасёлак Драздны можна з поўным правам назваць Царскім сялом. І па багацці, і па спосабе яго стварэння. Фактычна, яго жыхары атрымалі свае дамы ад «цара». Аляксандр Лукашэнка стварыў, зляпіў гэтую эліту, злучыўшы разам чыноўнікаў і бізнэсоўцаў. І пасяліў побач з сабой.

**Ягор Марціновіч.**
**Фота Сяргея Гудзіліна.**

**Колькі зарабляе абслуга ў Драздах?**

Мінскія агенцтвы занятасці часам вывешваюць аб'явы аб пошуку нянькі ў нейкі з катэджаў у Драздах. Што ўваходзіць у абавязкі найманага работніка і колькі за гэта плацяць?

Вось адна з аб'яваў: «Сям'я запрашае на працу ў Драздны няньку для дзяўчынкі 7,5 года. Графік працы — панядзелак-субота, працоўны дзень з 11.00 да 19.00. У абавязкі ўваходзіць прыгатаванне ежы для дзіцяці (абед і вячэра) і кармленне, выгул сабак, догляд за дзіцячым гардэробам. Часам трэба дапамагаць домработніцы па гаспадарцы і набываць прадукты разам з кіроўцам».

Выстаўленая аплата складае $5 за гадзіну. За месяц такой працы нянька можна зарабіць каля $1000.

Як вынікае з аб'явы, у доме працуюць хатняя работніца, кіроўца, нянька і рэпетытар. Гэта стандарт жыцця нават не сярэднестатыстычнага еўрапейца, а самых заможных сем'яў.



**Марына Ермаловіч-Захарава красуецца на фоне «Бэнтлі». Злева дом Юрыя Чыжа.**



**«Скрозь церні да зорак» — напісана лацінай на катэджы расійскіх мільярдэраў Груздзевых.**



**Генадзь Навіцкі нядоўга пабыў прэм'ер-міністрам.**



**Фасад дома айца Фёдара Поўнага ўпрыгожвае сціплы лік святога. Дарэчы, камуналка за такі дом узімку складае каля 1,1 мільёна рублёў.**

# Жыхары раёна Усход пратэстуюць супраць зносу аўтавакзала «Маскоўскі»

Пачаўся **збор подпісаў**.

«Газпрам» задумаў збудаваць сабе офіс-хмарачос у сімвалічным месцы — побач з Нацыянальнай бібліятэкай. Ён прэтэндуе на тэрыторыю аўтавакзала «Маскоўскі». Старшыня Мінскага гарвыканкама Ладуцька заявіў, што ніякай асаблівай каштоўнасці вакзал не мае. Між тым, у 2002 годзе новы аўтавакзал быў прызнаны найлепшым архітэктурным здабыткам года.

Жыхары мікрараёна хочуць захавання зручнага аўтавакзала. Выкладчык БНТУ Віктар Талмачоў ініцыяваў збор подпісаў.

«За першы ж дзень я сабраў больш за 30 подпісаў, — кажа спадар Талмачоў. — Усе жыхары Усходу абураныя планамі дзяржавы знішчыць аўтавакзал. Па-першае, гэта выдатная архітэктура — будынак аўтавакзала атрымаў дзяржаўную прэмію. Па-другое, гэта важны транспартны вузел для жыхароў раёна Усход-2. Вакзалам карыстаюцца не толькі жыхары, якія едуць у цэнтр, але і турысты, якія наведваюць бібліятэку, людзі, што едуць на могілкі ў Калодзішчах, і тыя, хто мае лецішча ў гэтым кірунку. З «Маскоўскага» ідуць таксама аўтобусы на Сілічы, Раўбічы, у Лагойск і ў аэрапорт — гэта вельмі зручна».

Паводле словаў спадара Талмачова, вакзал недагружаюць наўмысна: «З дванаццаці касаў там працуе тры. Я спецыяльна размаўляў з касіркамі: кажуць, што сур'ёзна знізілі заробак — да 2,5 млн рублёў, таму ісці туды працаваць згаджаюцца толькі пенсіянеркі».

Таксама жыхары Усходу баяцца, што «Газпрам» пабудуе на месцы аўтавакзала казіно, што пагоршыць крымінагенную сітуацыю ў гэтай частцы горада.

Віктар Талмачоў працягвае збіраць подпісы супраць руйнавання «Маскоўскага».

«Усход — гэта першы ў Мінску раён, дзе былі пабудаваныя высотныя дамы, гэта тытульны раён, куды Машэраў засяліў інтэлігенцыю. Я спадзяюся, што ўлады нас пачуюць і не стануць руйнаваць аўтавакзал».

**Юрась Ускоў**



Падпісацца за захаванне аўтавакзала можна, адправіўшы паштоўку са сваім подпісам і аргументамі супраць руйнавання Маскоўскага на паштовае аддзяленне 220086 з пазнакай «Віктару Талмачову».

**Віктар Талмачоў**
выкладае ў БНТУ матэматыку, інфарматыку і экалогію. Дацэнт, кандыдат навук. Жыхар мікрараёна Усход з 1972.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Новыя тэхналогіі

# Маем свой граніт, але солім дарогі

Чаму не пасыпаць **гранітнай крошкай**, як робяць скандынавы?



**Цана за тону**

Гранітная крошка — 90 000 (франка-вагон).

Пясчана-саляная сумесь — 113700 (франка-вагон).

Паводле звестак дзяжурна-дыспетчарскай службы «Белаўтадар», з пачатку зімовага перыяду на дарогі краіны высыпалі пад 400 тысяч тон пясчана-салянай сумесі і каля 50 тысяч тон чыстай солі. Уяўляеце: 450 мільёнаў кілаграм, па 50 кг на кожнага беларуса! А яшчэ зіма не скончылася.

Гэтая соль раз'ядае кузавы машын, абутак і сушыць дрэвы ўздоўж дарог.

### Гатовыя хоць сёння

Беларусь — не Скандынавія, што літаральна стаіць на граніце, але граніт ёсць і ў нас — вялізнае радовішча ў Мікашэвічах. І там нават вырабляюць гранітную крошку.

У аддзеле маркетынгу мікашэвіцкага «Граніта» кажуць, што дарожнікі замаўляюць яе, але толькі для ямачнага рамонту і ў якасці аднаго з кампанентаў пры вырабе асфальту.

Начальнік аддзела маркетынгу Міхаіл Федаровіч запэўніў: калі выкарыстанне крошкі стане эканамічна мэтазгодным, прадпрыемства хоць сёння гатовае адгрузіць яе ў неабходнай колькасці. На сёння цана 1 т гранітнай крошкі (фракцыя 2—4 мм) складае на заводзе каля 90 000 рублёў.

### Скандынаўскі падыход

У Фінляндыі зімой дарогі пасыпаюць гранітнай крошкай. Прычым вясной яе збіраюць, мыюць, прасушваюць і захоўваюць да наступнай зімы!

У сярэднім за зімовы сезон страчваецца каля чвэрці высыпанай на дарогі крошкі. Так робяць і ў Эстоніі, а летась досвед Фінляндыі запазычылі ў некаторых гарадах Расіі.

У Швецыі ж практыкуюць такі спосаб. Дарогі чысцяць ад снегу не да канца. Яго прыкатваюць, а пасля гэтага на спрэсаваны слой снегу сыплюць гарачую гранітную крошку. Яна хутка ўмярзае ў снег, і такім чынам ствараецца шурпатае дарожнае пакрыццё.

### Соллю па скуры

Не сакрэт, што апрацоўка дарог пясчана-салянай сумессю мае адмоўныя наступствы. Найперш, гэта шкода экалогіі і карозія кузаваў аўтамабіляў, а таксама папсаваны абутак пешаходаў.

Некалькі год таму дарожнікі пачалі шырэй выкарыстоўваць хларыд натрыю, які, як лічыцца, менш шкодны для прыроды.

У мінскіх СТА расказалі, што цалкам ліквідаваць пагрозу карозіі ад дарожных сумесяў практычна немагчыма, можна толькі мінімізаваць з дапамогай ацынкоўкі кузава, апрацоўкі яго антыкаразійнымі матэрыяламі. Асаблівую небяспеку для аўто ўяўляе пясчаная сумесь: дробныя каменьчыкі прабіваюць фарбу на кузаве, соль трапляе ў пашкоджаныя месцы і раз'ядае метал.

Соль з пяском ператварае снег на ходніках у брудную кашу, якая моцна псуе абутак. Як і ў выпадку з аўто, цалкам абараніцца ад солі не ўдасца. Застаецца параіць апрацоўваць абутак адмысловымі аэразолямі, чысціць яго і своечасова сушыць.

### Чыстая эканоміка?

У прэс-службе дэпартамента «Белаўтадар» расказалі, што гранітная крошка ў Беларусі не ўжываецца з эканамічных прычын. «Скандынаўскія краіны ў літаральным сэнсе стаяць на граніце. Для іх гэта бясплатная сыравіна. Для Беларусі такі матэрыял занадта дарагі», — патлумачыў кіраўнік прэс-службы Аляксей Пекун. Нашы дарожнікі выбіраюць самыя танныя і даступныя матэрыялы. Дарогі пасыпаюцца адкідамі салігорскага «Беларуськалія», ходнікі і пешаходныя зоны некалькі год па загадзе Міністэрства аховы здароўя апрацоўваюць харчовай соллю.

### Інерцыя мінулага

Аднак, як высветлілі мы, на сёння гранітная крошка каштуе менш за пясчана-саляную сумесь! Крошку «Граніт» прадае па 90 000 за франка-вагон, пясчана-саляную сумесь «Белаўтадар» купляе за 113700.

Праўда, улічваць трэба яшчэ і тое, якую масу таго і другога трэба высыпаць з разліку на квадратны метр пакрыцця, і пры якой тэмпературы. Колькасць выкарыстанай сумесі залежыць ад умоваў надвор'я і колькасці снегу. Варта ўлічваць таксама магчымасць паўторнага выкарыстання крошкі. Карацей, канчаткова супаставіць кошт пасыпкі крошкай і соллю могуць толькі спецыялісты.

Ясна толькі, што з улікам розных фактараў выкарыстанне гранітнай крошкі выглядае больш прагрэсіўнай тэхналогіяй. Застаецца, каб хтосьці ў высокім кіраўніцтве звярнуў на гэта ўвагу.

**Сямён Печанко**

Дабрачыннасць

# Просім дапамагчы маленькаму Эдуарду

Да вас звяртаюцца бацькі Эдуарда Базанава, які праходзіць рэабілітацыю ў Інстытуце дасягненняў чалавечага патэнцыялу ў Філадэльфіі, ЗША.

У 2011 годзе чытачы «Нашай Нівы» дапамаглі назбіраць грошай на лекаванне маленькага Эдзіка.

Дзякуючы прызначанай у ЗША праграме заняткаў наш сын, якому ўсяго 4 гады і ў якога цяжкае паражэнне мозгу, ужо ўмее чытаць. Таксама, пакуль ён не навучыўся размаўляць, нас навучылі спецыяльнай методыцы зносін з Эдуардам. Самае цяжкае ў рэабілітацыі дзіцяці з ДЦП — гэта развіццё рухальных навыкаў. Але тут у нашага сына заўважныя вынікі — месяц таму мы ўпершыню ўбачылі, як наш сын папоўз! А гэта наша самая запаветная мара на сённяшні дзень, бо пасля дасягнення яе для Эдзіка пачнецца новы этап жыцця — самастойны рух!

Але, на жаль, наш шлях праходзіць не без праблем. У Эдзіка моцна абвастрыліся праблемы са сном і страваваннем, таму нам вельмі патрэбная дапамога спецыялістаў, якія ёсць у Інстытуце ў ЗША, дзе мы праходзім лячэнне. На жаль, у нашай краіне нам і ў гэтым дапамагчы не змаглі, як заўсёды, спісваючы ўсе праблемы на асноўны дыягназ — ДЦП.

У Філадэльфіі нас чакаюць 25 лютага. Мы як маглі спрабавалі адтэрмінаваць гэтую паездку праз цяжкае фінансавае становішча: прыязджаць раз на паўгода, на жаль, ужо няма магчымасці. Толькі ўвосень дзякуючы дапамозе неабыякавых людзей мы здолелі расплаціцца за наш травеньскі курс. Балазе, Інстытут ідзе нам насустрач, але гэта не бясконца, іх пазіцыя цвёрдая: дзіцяці неабходнае абследаванне і карэктаванне лячэння раз на паўгода. На сённяшні дзень сабрана 6800 даляраў, трэба сабраць 11 000.

На нашым сайце www.dcp.by мы публікуем усе справаздачы пра сабраныя сродкі і выдаткі на паездкі.

З павагай і бясконцай удзячнасцю,
**Вольга, Павел і маленькі Эдуард**

**Ад Рэдакцыі.** Нагадаем, што Эдзік — унук дзеяча нацыянальнага адраджэння Вячаслава Дубінкі.



Філія №514 у ААБ «Беларусбанк», УНП 100420097; МФО 153001614:

У беларускіх рублях — №000000008
(Транзітны рахунак №3819382102369 пры пераказе грошай юрасобай)
У доларах ЗША — №8400000000112
(Транзітны рахунак №3819382109779 пры пераказе грошай юрасобай)
У еўра — №9780000000018
(Транзітны рахунак №3819382109779 пры пераказе грошай юрасобай)
У расійскіх рублях — №6430000000009
(Транзітны рахунак №3819382109779 пры пераказе грошай юрасобай)
Прызначэнне плацяжу: на Дубінку Вольгу Вячаславаўну для лекавання сына Базанава Эдуарда.

# Кацярына Кібальчыч: Масквой трэба ўмець карыстацца

**Гэта горад магчымасцяў, як Лос-Анджэлес, расказвае беларуска-журналістка расійскага Першага канала.**



Кацярына Кібальчыч запрашае ўсіх жадаючых на курсы «Мова ці кава» ў Мінску! Першы занятак адбудзецца ў сераду 20 лютага ў кавярні «Дом Фішэра» (пр. Незалежнасці, 84а). Пачатак а 19:00

> Тэлежурналісты ў Маскве шукаюць заробак не меншы за $3000, прадзюсары пачынаюць з $2000

Беларуская журналістка Кацярына Кібальчыч пераехала ў Маскву 10 гадоў таму. Але яна не пакідае беларускай тэматыкі: асвятляла прэзідэнцкія выбары, за што атрымала прэмію «Залатое пяро Расіі», зняла фільм «Беларуская мара» пра Плошчу-2010, а цяпер адкрыла бясплатныя курсы беларускай мовы «Мова ці кава».

### Нядоўгая дарога да Масквы

«Я заўсёды хацела працаваць на тэлебачанні і разумела, што ў Беларусі няма магчымасці гэта рабіць — узровень нашага ТБ вельмі нізкі. Я вучылася на факультэце журналістыкі БДУ і на трэцім курсе ўладкавалася на АНТ. Мне было 19 гадоў, і я была наймалодшай супрацоўніцай з усіх. Вяшчанне канала пачалося з майго рэпартажа: у першым выпуску «Нашых навінаў» пасля ўступу Аверкава я расказала пра некалькі кілаграмаў ртуці, якую вылілі ў смеццеправод аднаго з мінскіх дамоў. Цікава было б знайсці гэты рэпартаж, асабіста для сябе, але баюся, мяне да АНТ і блізка не падпусцяць.

Я папрацавала паўгода і зразумела: трэба неяк «валіць». Спачатку хацела ехаць у Польшчу. Я ведаю польскую мову — дзяўчынай спявала ў хоры Чырвонага касцёла і вывучыла яе падчас гастроляў. Падала на стыпендыю, але мне адмовілі. Таму я сабрала валізку, касету з рэпартажамі і паехала ў Маскву. Два з паловай гады я працавала на Трэцім канале («Масковія»), а пасля атрымала запрашэнне ад Першага канала. Цяпер сяджу з дзіцём дома, але застаюся штатным супрацоўнікам Першага».

### БТ ≠ Першы канал

«Першы канал — гэта тэлебачанне, якое мае дзяржаўны погляд на падзеі. Але нельга сказаць, што гэта тое ж самае, што БТ. Да БТ яму яшчэ далёка-далёка. Калі на канале НТВ з'явіўся скандальны фільм «Анатомія пратэсту», журналісты байкатавалі, некаторыя нават звольніліся. Там такое пачалося! А калі б гэта кожны дзень адбывалася? Нельга сказаць, што расійскае ТБ цалкам свабоднае, але там няма такога, як у Беларусі. Там ёсць і шмат крытычных матэрыялаў. Мабыць, першых асоб дзяржавы і не надта крытыкуюць, але там няма такой «ідыліі»: усё добра, дзеці спяваюць, папса танчыць і ўсе задаволеныя. І людзі там не баяцца выказвацца.

Калі ў Беларусі абваліўся даляр, я шукала чалавека, які б расказаў мне, што яму знізілі заробак. Медыкам тады не толькі не праіндэксавалі зарплату, але яшчэ і падрэзалі. Я скантактавалася з гомельскай педыятаркай, якая пагадзілася даць інтэрв'ю. Яна ў выніку стала атрымліваць менш за $100 і вырашыла звольніцца з клінікі. Ёй трэба было сказаць, колькі яна зарабляла раней і колькі зарабляе цяпер. Яна думала тры дні, але муж быў супраць... У выніку адмовілася размаўляць. Пасля я не знайшла ніводнага чалавека, хоць і шукала. У Расіі ж дзе заўгодна спытай «ці вы задаволеныя жыццём?» — вам столькі нагавораць!»

### «На мітынгі не хадзіла: беларускай «вайны» хапае»

«Я не хадзіла на мітынгі ў Маскве, нават як журналіст. Мне беларускай «вайны» хапае. Калі пачыналася Балотная, я была ўжо цяжарная і не рызыкавала. Але некаторыя мае калегі з Першага хадзілі. Пасля гэтых пратэстаў пайшла хваля свабоды слова на ТБ. Добры прыклад: нябожчык Ігар Кваша, які вёў перадачу «Чакай мяне», праз інтэрнэт заклікаў людзей ісці на мітынгі, казаў, што калі застанецеся дома, дык будзеце быдлам, а не грамадзянамі. І гэта чалавек, які працуе на галоўным афіцыёзным канале! І пасля гэтага яго не «выкінулі з канала».

### Поўная дэмакратыя парве Расію на кавалкі

«У Расіі бездань сіл, бакоў і фактараў. Скажу шчыра, я не падтрымліваю рэвалюцыю ў Расіі так адназначна, як у Беларусі. Мне здаецца, што поўная дэмакратыя парве Расію на кавалкі.

Інтэлігенцыя, якая мітынгуе, прадстаўляе свае інтарэсы, а не інтарэсы народа. Гэта насамрэч дэмакраты, лібералы, якія хацелі б жыць у еўрапейскай краіне. Але не ўсе расейцы, асабліва ў правінцыі, жадалі б гэтага. Яны слаба разумеюць, якія змены адбудуцца ў іх жыцці. І нават мітынгоўцы не ўсе за рэвалюцыю. Яны за лібералізацыю, супраць застою.

Пасля распаду СССР расійцы расчараваліся. Усе думалі: «Скінем камуністаў і зажывём!», але ў выніку шмат страцілі. Цяпер расійцы зарабляюць неблагія грошы, бізнэсоўцы разумеюць, што сярод тых, хто пойдзе браць

### Мова — адзінае, што можа аб'яднаць беларусаў

Крэмль, заўсёды знойдуцца тыя, хто пойдзе браць булачную. Таму булачнік не будзе галасаваць за рэвалюцыю.

Калі кажуць пра фальсіфікацыі ў Расіі, звычайна ўзгадваюць «накрутку» ў 10—15%. Маім словам, што ў Беларусі галасы не лічаць увогуле, а вынікі спускаюць «зверху», не вераць нават людзі з выбаркамаў: маўляў, больш за 15% немагчыма падрабіць. Людзі, якія параўноўваюць сітуацыю ў Расіі з Беларуссю, не ведаюць, што робіцца ў Беларусі.

Я не брала ўдзелу ў расійскіх выбарах, але калі б ведала, што ад майго голасу залежыць вынік і пайшла галасаваць, з усіх кандыдатаў абрала б Пуціна, хоць я і не ягоны фанат. У Беларусі за Лукашэнку б не галасавала. За каго заўгодна, але не за яго».

### Масквой трэба ўмець карыстацца

«Жыву пад Масквой, за горадам. Масква мне не падабаецца, я не люблю яе, але гэта фантастычны горад, дзе збыліся мае мары. Туды едуць за «доўгім рублём». Гэты горад, як Лос-Анджэлес, трэба ўмець ім карыстацца, і ён шмат чаго дасць. Гэта горад магчымасцяў. Там цікава жыць, асабліва журналісту».

**Запісаў Кірыла Хілько**

---

**Беларускія прадукты вязём на сувеніры**

«Я не ем мяса і малочных прадуктаў, схіляюся да вегетарыянства. Але беларускія тавары папулярныя ў Маскве. Калі прыйсці на рынак, то чарга будзе каля беларускага шапіка. Напэўна, гэтыя бабулькі-пакупніцы нешта разумеюць. Думаю, што насамрэч якасць лепшая, бо ў Беларусі няма свабоднай канкурэнцыі і малаказаводы атрымліваюць датацыі. Расійскія ж у «свабодным плаванні». Беларускую згушчонку, тушонку і хлеб скрынкамі возім сябрам на сувеніры».

---

### «Мова ці кава» ў Маскве

«Я вырашыла рабіць курсы беларускай мовы ў Маскве. Яны бясплатныя, таму за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць мяне не прыцягнуць (смяецца). Адбыліся ўжо 2 заняткі: 14 і 21 студзеня.

14 студзеня мы ўпершыню сабраліся ў маскоўскай кавярні Starbucks. Прыйшло шмат людзей — каля 40 чалавек. Я думала, што будзе нешматлюдна, але да такой колькасці не падрыхтавалася. Мы разбіліся на дзве групы і гулялі ў «Мафію», а выкладчыкі Васіль Дранько-Майсюк і Вольга Вербіловіч былі вядоўцамі.

У асноўным прыйшлі беларусы. Яны пакінулі сваю Радзіму, і ў іх ёсць жаданне знайсці сяброў, ёсць супольныя тэмы. Прыйшла прэс-сакратарка Чэхаўскага тэатральнага фестывалю, палітолаг Кірыла Коктыш з жонкай, студэнт Мытнай акадэміі, які хоча стварыць суполку беларусаў Масквы. Рускія пісалі пра жаданне наведаць курсы па-расейску, некаторыя на сапраўдны трасянцы: «Я дюже хочу учить мову».

Я абяцаю людзям, што мы будзем вучыць беларускую мову весела, цікава, без падручнікаў і сшыткаў. Пачынаем мы з размінкі, з «news cafe». Гэта адзінае хатняе заданне: цягам тыдня трэба чытаць беларускамоўную прэсу, а на занятку пераказаць упадабаны артыкул сваімі словамі. Такім чынам мы не адрываемся ад радзімы ў Маскве і заадно вучым лексіку з розных тэмаў: ад сэксу да палітыкі. 70—80% заняткаў — моўная практыка. Будзе рубрыка «пытаннечка», «калька з рускай», «тыповыя памылкі», «жывая мова»... Людзі размаўлялі, жартавалі. Пад канец я забылася, што знаходжуся ў Маскве.

З цягам часу некаторыя людзі «адваляцца», а з астатнімі мы будзем працаваць больш сур'ёзна. Я хачу зрабіць якасны інтэлектуальны прадукт, і для мяне істотныя не толькі веды, але і эмоцыі, якія людзі атрымліваюць».

### Ці будзе «Мова ці кава» ў Мінску

«Чаму я раблю гэтыя курсы? Насамрэч я хачу арганізаваць такія ж у Мінску. Маскоўская група — гэта эксперымент. Мы будзем збіраць інфармацыю пра тое, што падабаецца людзям, а што не.

Я жыву ў Маскве, і немагчыма зрабіць курсы ў Мінску дыстанцыйна. Мы ўсё зробім па «франшызе», як той самы «Старбакс» «прыехаў» з ЗША ў Маскву, так і «мову ці каву» экспартуем у Мінск. Але гэта будзе адзін праект, над ім будзе працаваць адна каманда.

Я лічу, што беларуская мова сёння — адзінае, што можа аб'яднаць народ. Я рускамоўны чалавек, які мае намер паказаць, што на гэтыя заняткі могуць прыйсці і людзі з БРСМ, і журналісты дзяржаўных СМІ. Мы прыйшлі вучыць мову, шукаць сяброў, прыемна правесці вечар у добрай кампаніі.

У Маскве мы занялі цэлае крыло кавярні, для нас спецыяльна зачынілі дзверы, каб народ не прабіваўся — мы ўваход усё адно заблакавалі. У Мінску, я буду дамаўляцца з кавярнямі, але яны самі павінны ў чарзе стаяць: гэта і прыбытак, і піяр. Калі ў нас, прабачце, і гэты праект спыняць, то гэта канец. Усё. Край. Вешалка».

# Супраць Азаранкі заўзелі ўсе, а яна перамагла



**Беларуска другі год запар перамагла на Australian Open.**

У суботу ў Мельбурне Вікторыя Азаранка ў трох сэтах перамагла кітаянку Лі На (4:6, 6:4, 6:3). Пераможца атрымала 2,5 мільёна даляраў. Таксама Азаранка застаецца на 1-м радку сусветнага рэйтынгу.

Варта адзначыць, што Вікторыя другі год запар становіцца наймацнейшай менавіта на «зялёным кантыненце». Летась яна перамагла ў фінале ў Аўстраліі Марыю Шарапаву. «Аўстраліян Оўпэн» — гэта першы турнір года серыі «Вялікага шлема» (таксама ўваходзяць «Ралан Гарос», «Уімблдон», USA Open).

Перамога каштоўная яшчэ тым, што супраць Вікторыі заўзеў ці не ўвесь корт «Род Лайвер Арэна». Справа ў тым, што Азаранка настроіла шмат каго супраць сябе медыцынскім таймаўтам у паўфінале супраць амерыканкі Слоўн Стывенс.

Некаторыя абвінавацілі Віку ў сімуляцыі і нават прапаноўвалі дыскваліфікаваць з турніру. Таму Азаранка змагалася не толькі з суперніцай, але і з вялікім псіхалагічным ціскам.

Азаранку не любяць не толькі амерыканцы, але і некаторыя суайчыннікі. Напрыклад, за тое, што апошнія гады яна не хоча гуляць за зборную на Кубку канфедэрацыі, часта здымаецца з турніраў, не дае інтэрв'ю беларускім СМІ.

Тым не менш, Азаранка вартая павагі за тое, што дасягнула суперпоспеху ў элітарным відзе спорту, папулярным ва ўсім свеце, а не ў якіх-небудзь водных лыжах ці стэндавай стральбе. Азаранка шмат робіць для прасоўвання брэнда Беларусь у свеце.

**Зміцер Панкавец**

# Беларускі ўсё часцей хочуць выйсці замуж за кітайца



Кітайскае афіцыйнае інфармацыйнае агенцтва «Сіньхуа» змясціла нататку, чаму японкі і беларускі ўсё часцей выбіраюць сабе ў спадарожнікі кітайскіх мужчын.

«Беларускія прыгажуні хочуць выйсці замуж на Захадзе, але апошнія гады ўсё часцей і часцей гатовыя пабрацца з кітайцамі, бо яны добрыя, не п'юць, займаюцца хатняй гаспадаркай, а ў Кітаі лепшыя перспектывы развіцця», — паведамляе «Сіньхуа».

На сайце адзначаецца, што Беларусь — гэта невялікая краіна ва Усходняй Еўропе, багатая драўнінай. А вось нафту, газ, вугаль даводзіцца імпартаваць з замежжа. «Аднак гэтая краіна мае іншы рэсурс — прыгажунь», — адзначае аўтар.

Насамрэч, паводле звестак з ЗАГСаў, за 2011 год шлюбы беларусак і кітайцаў не вельмі распаўсюджаныя, хоць і сустракаюцца.

**ЗП**

**Фотапазітыў**





**Кот гуляецца ў снежкі.**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Антыфашыст Міранов іч

Кожны год, калі набліжаецца 25 студзеня, я адчуваю штуршкі ў сэрца, быццам нехта намагаецца, каб аж да скону стукаўся ў яго балючы напамін.

25 студзеня 1980 памёр Яўген Фёдаравіч Мірановіч.

Каб я, хай сабе ўскосна, не меў дачынення да папярэдніх падзей, штуршкоў у сэрца, магчыма, і не было б. Не было б, магчыма, і той заўчаснай, у 63 гады, смерці, каб не тыя падзеі. Бо я бачыў, як дрэнна яму за састаўленымі вялізнай літарай «П» сталамі ў саўгаснай сталоўцы, дзе ладзіўся заключны банкет для прафсаюзных босаў з Масквы і рознага кшталту адмыслоўцаў з прафсаюзаў краін савецкага блока.

Адзін за адным прамаўляліся тосты — за сяброўства паміж народамі, за росквіт сельскай гаспадаркі... Падняўся П., намеснік галоўнага рэдактара, і, дачакаўшыся цішыні, узняў поўную чарку: «ВЦСПС!» Я толькі пачынаў працаваць у «Труде», але ўжо ведаў, што гэта каронны тост страшэннага цыніка, з якога пачыналіся і якім заканчваліся рэдакцыйныя п'янкі. А тут усе паўставалі, забразгалі відэльцамі, талеркамі, танным крышталём... Мірановіч падняўся неяк бокам і адразу сеў, паставіўшы чарку. Я падышоў да яго: «Вам дрэнна, Яўген Фёдаравіч?» — «Не, не, нічога, — па сцырванелым стомленым твары прабегла ўсмешка, — мабыць, узняўся ціск. Такое здараецца...»

Тыдзень таму я доўга чакаў яго ля кантора, каб паведаміць, што «Труд» мусіць ладзіць у яго семінар. Нарэшце, пад'ехаў «газік», і разам з Мірановічам выйшаў хударлявы чалавек у дублёнцы і агромністай рыжай шапцы, працягнуў руку: «Аграноўскі». І, працуўшы мяне з'едлівым позіркам, прабурчэў: «Толькі вас тут не хапала!» І тое праўда: знакаміты на ўсю краіну журналіст прыехаў працаваць, а тут нейкі семінар пра падсобныя сялянскія гаспадаркі і саўгасныя промыслы...

Знаёмства з Мірановічам адбылося мо гадоў за дзесяць да таго і было трохі дзіўнаватым. З дзяцінства, з першага падарожжа на Нарач, мяне вабілі пявучая назва Любань і таямніцы старога парку пры самай дарозе. Але ўсё міма, міма... Пакуль аднойчы не спыніўся і, сустрэўшы нейкага прысадзістага, каржакаватага мужыка, не стаў распытваць яго пра Любань. Так

## Ён насамрэч ставіў простага чалавека вышэй за ўсялякія лозунгі, «лініі партыі» і чыны

я даведаўся, што спрадвек тут была моцная гаспадарка паноў Любанскіх, а зараз саўгас... Я падзякаваў і пайшоў глядзець парк, а мужык, трохі няўграбна ўздымаючы гумавымі ботамі сухаваты травеньскі пыл, накіраваўся да хаты, над якой чырванеў узняты да Дня Перамогі сцяг... У машыне, калі вярнуўся, ляжала сетка з агуркамі. Я азірнуўся і раптам зноў пабачыў на ганку таго мужыка. «Не ведаеце, хто паклаў?» — «Скажыце, у вас маленькія дзеткі ёсць? Што, вітаміны ім не патрэбны?» — «Ёсць, д-дачка...» — няўпэўнена адказаў я, заўважыўшы, як з-пад старой ватоўкі бліснула прычэпленая да свята «Залатая Зорка» героя...

Усе дзесяць гадоў нешта ўтрымлівала мяне ад таго, каб пісаць пра Мірановіча і ягоную ўнікальную гаспадарку, хаця сустракаліся мы часцяком і я шмат чаго ведаў. У тым ліку пра тое, з якой брыдкасцю ставіцца ён да ўсялякага ўсхвалення. Сціпласць ягоная была настолькі фанатычнай, што навакольная бражнэўшчына з яе цацкамі, лозунгамі і ўсёабдымнай хлуснёй выклікала яшчэ большую моташнасць. Але галоўнае — ён насамрэч ставіў простага чалавека вышэй за ўсялякія лозунгі, «лініі партыі» і чыны. Аднойчы заспеў у яго кагосьці, ужо не памятаю, з сакратароў ЦК. Раптам нехта паскробся ў дзверы: «Заходзьце, Мікалаеўна...» Ці не з паўгадзіны сакратар моўчкі чакаў, пакуль Мірановіч, падставіўшы вуха, слухаў патаемны шэпт старой... Вось Арлоўскі, думаў я, «моцная рука», «жалезны парадак», мардабой... А вось Мірановіч — заўжды ціхі голас, спагадлівасць, уважлівы, нават з адценнем нейкай вінаватасці, позірк...

...Ён памёр на другі дзень пасля згаданага банкету. У пяць раніцы, як заўжды, правёў штодзённы нарад і памёр.

А неўзабаве папаўзлі чуткі пра тое, што ў Мірановіча знайшлі ці не з пуд золата, нейкія рахункі ў Амерыцы, з якіх ён дапамагаў сіяністам, бо сам утоены яўрэй...

Але я памятаў, як аднойчы ў нейкай задуменнай роспачы, бы не верачы самому сабе, сказаў: «Сярожа, у краіне фашызм...» Мо таму, што найпершай прыкметай фашызму лічыў антысемітызм і хлусню.

...Яны змагаліся з фашызмам разам, яўрэй Тэвель Фінкельштэйн са Смілавіч і беларус Яўген Мірановіч з Оршы, партызанскія камандзіры, баявыя сябры. За галовы абодвух немцы абяцалі шалёныя грошы. І тады яны далі адзін аднаму клятву: калі хто застанецца жывы, возьме прозвішча таго, хто загіне...

Ён застаўся. Усё жыццё клапаціўся аб жонцы і дзецях сябра як пра сваіх. А ў анкетах пісаў: «Мірановіч Яўген Фёдаравіч, беларус, выхадзец з беднай яўрэйскай сям'і...»

**P.S.** Анатоль Аграноўскі застаўся на семінар, нават нешта расказваў пра вопыт Вугоршчыны... Зазнаўшы, што Мірановіч памёр, адразу з'ехаў. А праз нейкі час у «Известиях» з'явіўся нарыс «Логика Мироновича». Я шукаў яго, але не знайшоў.

*kamerton_41@mail.ru*

# Прэзідэнт Польшчы і паслы Беларусі, Украіны, Літвы ўшанавалі памяць паўстанцаў

22 студзеня **ў Варшаве прайшлі ўрачыстасці** з нагоды 150-годдзя пачатку Паўстання 1863 года.

«150 гадоў таму людзі розных моваў, культур і рэлігій разам пайшлі ў бой за свабоду», — сказаў прэзідэнт Польшчы Браніслаў Камароўскі ў часе ўскладання вянкоў да помніка Паўстанцам на могілках Павонзкі ў Варшаве.

Ва ўшанаванні ўзялі ўдзел прадстаўнікі дзяржаўных уладаў Польшчы і духавенства розных канфесій, у тым ліку каталікі і праваслаўныя. Свечкі прынесла таксама моладзь і прадстаўнікі беларускай, украінскай ды літоўскай дыяспар у Польшчы.

На цырымоніі прысутнічалі пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак, паслы Літвы, Украіны і часовы павераны ў справах Латвіі.

У пасольстве Беларусі ў Варшаве «Нашай Ніве» паведамілі, што Цэнтр беларускай культуры ў Варшаве рыхтуе выставу да 150-годдзя паўстання, якое палякі называюць Студзеньскім паўстаннем, а ў Беларусі больш вядомага як Паўстанне Каліноўскага.

«Паўстанне 1863 года было апошнім акордам супольнага змагання за свабоду ўсіх народаў, якія некалі ўтваралі супольную дзяржаву, а пасля разам арганізавалі барацьбу за вызваленне, — адзначыў прэзідэнт Польшчы. — На помніку ёсць герб Польшчы, і ёсць герб «Пагоня», і ёсць герб Русі».

«Для нас, палякаў, паўстанне 1863 года — гэта нацыянальнае паўстанне, — сказаў Камароўскі. — А вось для літоўцаў гэта пачатак дарогі да самастойнасці, да ўтварэння сучаснай літоўскай нацыі з асобнай дзяржавай», — падкрэсліў ён.

Тое самае адносіцца і да беларусаў.

Менавіта ў часе паўстання пачала выходзіць першая газета на беларускай мове — «Мужыцкая праўда», — што стала важным этапам у самаўсведамленні беларусаў беларусамі.

На цырымоніі на Павонзках прысутнічалі і беларусы Варшавы з бел-чырвона-белым сцягам.

**Сяргей Макарэвіч, Мікола Бугай**



**Пасол Гайсёнак стаіць за прэзідэнтам Камароўскім (першы справа ад харцара са знічом).**

## Кіраўнік БАТЭ перанёс трохдзённую кому

Яму зрабілі найскладанейшую **аперацыю на сэрцы**.

Анатолю Капскаму 46 гадоў. Ён — заснавальнікам футбольнага клуба БАТЭ (Барысаў). Ягоная фірма «Сталкер» была першым спонсарам барысаўскага клуба.

Ад 2005 Капскі таксама ўзначаліў аднайменнае прадпрыемства — БАТЭ. Працы, натуральна, паболела.

Варта адзначыць, што той год быў самым складаным для БАТЭ. У 2005 каманда адзіны раз у гісторыі засталася без медалёў унутранага першынства. Заўзятары байкатавалі гульні.

Тады ўпершыню ў Капскага з'явіліся праблемы з сэрцам. У той самы год ён перанёс аперацыю ў Вільні, балансаваў паміж жыццём і смерцю.

Сёлета летам Капскі хварэў на пнеўманію, якая дала ўскладненні. Давялося рабіць паўторную аперацыю, якая цягнулася паўдня.

Аперацыю зрабілі 9 студзеня, але праз пяць дзён пацыенту раптоўна стала блага. Калі гендырэктар БАТЭ прыйшоў у прытомнасць, то запытаўся: «Усё яшчэ раніца?» Медсястра на гэта адказала: «Так, але не панядзелка, а чацвярга».

Анатоль Капскі адзначыў, што ў гэтыя дні атрымаў мноства словаў падтрымкі, нават не змог адказаць на ўсе званкі і смскі. Кідаць працу праз здароўе ён не збіраецца, застанецца на абедзвюх пасадах.

**Зміцер Панкавец**

## Аляксандр Гутар: Хачу, каб Капскі папраўляўся, жыў і радаваўся

Брамнік Аляксандр Гутар пакуль яшчэ знаходзіцца ў падвешаным стане. На мінулым тыдні камітэт Беларускай федэрацыі футбола па статусе футбалістаў дазволіў галкіперу барысаўскага БАТЭ пакінуць клуб пасля выплаты кампенсацыі ў памеры 180 тысяч даляраў.

«Не хачу гаварыць пра гэтую сітуацыю, пакуль нічога не вырашыцца канчаткова», — сказаў нам Аляксандр Гутар.

Затое брамнік выказаўся пра сітуацыю з кіраўніком футбольнага клуба БАТЭ Анатолю Капскім, які нядаўна перажыў складаную аперацыю і трохдзённую кому.

«Я таксама чалавек. Натуральна, што хачу, каб Капскі хутчэй папраўляўся, жыў і радаваўся. Нічога кепскага я яму не зычу. Без Капскага беларускі футбол вельмі шмат бы страціў. Я заўсёды жадаю Анатолю Анатольевічу здароўя і ўсяго самага найлепшага».

**ЗП**

## Маладафронтаўца запрасілі працаваць у міліцыю

Раман Васільеў атрымаў запрашэнне ад аддзела ўнутраных справаў Жодзінскага гарвыканкама ўладкавацца на працу ў органы міліцыі. Запрашаецца маладзён на вакантныя месцы шарагоўца і «начальствующего состава».

Зрэшты, Васільеў вырашыў адхіліць такую прапанову. «Хаця наконт «начальствующего состава» варта было б падумаць», — жартуюць сябры па арганізацыі.

Маладафронтавец Раман Васільеў за 2012 год восем разоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за акцыі супраціву. У суме адседзеў амаль тры месяцы — 89 сутак. Відаць, міліцыі спадабаўся байцоўскі характар Рамана, калі паклікалі на працу.

Хаця насамрэч падобныя паперкі ідуць усім юнакам — у міліцыі недахоп кадраў.

**ЗП**



**Фотафакт**




**Актывісты моладзевай ініцыятывы «Альтэрнатыва» правялі ля Камароўскага рынку флэшмоб на тэму афіцыйнага беларускага беспрацоўя. Манекены «трымалі» плакаты: «Як і іншыя, я з'язджаю на працу ў Маскву» і «Улада мяне не заўважае...».**

**Свет**

## Каралева Нідэрландаў адраклася ад трона

Усё XX стагоддзе краінай **кіравалі жанчыны**.

Каралева Нідэрландаў Беатрыкс у звароце да нацыі абвясціла пра сваё рашэнне адрачыся ад трона на карысць свайго сына прынца Аранскага-Насаў Вілема-Аляксандра, ён стане каралём 30 красавіка.

Беатрыкс, якой 30 студзеня споўніцца 75 гадоў, стала кіраваць Нідэрландамі ў 1980, калі ад трона адмовілася яе маці, каралева Юліяна.

Юліяна царавала ад 1948, замяніўшы сваю маці Вільгельміну, што кіравала краінай аж з 1890.

**АГ**



## Здаровыя дзеці часцей нараджаюцца ў парах, якія пражылі ў шлюбе без здрады

Вернасць у шлюбе выгадная перш за ўсё мужчынам. Даследаванні паказалі, што мужчыны, якія здраджваюць сваёй жонцы ці мяняюць сяброваk як пальчаткі, рызыкуюць працягам свайго роду дый уласным здароўем.

Навукоўцы прааналізавалі звесткі аб трох пакаленнях больш як 14 000 сем'яў. Выявілася, што здаровыя дзеці часцей нараджаюцца ў парах, якія пражылі ў шлюбе без здрады.

Што тут прычынай? Па-першае, рызыкоўныя полавыя стасункі павялічваюць імавернасць інфекцый. Па-другое, яны спрычыняюць эмацыйны дыскамфорт. Можа быць, у юрлівасці ёсць і нешта генетычна заганнае.

Такім чынам, кажуць навукоўцы, большасць культур чалавецтва правільна выбралі манагамнасць у якасці грамадскай нормы.

**Сямён Цыбульскі**

# У кватэры памерлай ад раку 36-гадовай мінчанкі знайшлі трупы замарожаных дзяцей

Магчыма, хацела **прадаць ствалавыя клеткі**.

Дзікую навіну паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінску. Увечары 22 студзеня 41-гадовы мінчук прыбіраў кватэру памерлай ад раку сужыцелькі Святланы і пабачыў у маразільніку эмбрыён дзіцяці. Ён выклікаў міліцыю. У маразоцы знайшлі яшчэ два такія ж цельцы.

Судова-медыцынская экспертыза паказала, што гэта трупыданошаных дзяцей, якія, магчыма, задыхнуліся ва ўлонні маці. Як мяркуецца, гэта адзін хлопчык і дзве дзяўчынкі — дарэчы, Святлана гадавала непаўналетняга сына і двух дачок..

Крымінальная справа заведзена па факце забойства трох малалетніх. Але падазраванага пакуль няма. Па генетычным матэрыяле будзе ўстаноўлена, хто быў бацькам. Экспертызы зоймуць ад дзесяці дзён да месяца.

Жанчыне, якая пакінула па сабе такую страшную загадку, было 36 гадоў. Асабістае жыццё ягне склалася: сын і дзве дачкі былі ад розных мужчын. З апошнім жыла не распісаная. І вось яшчэ здарыўся рак грудзей.

Для чаго жанчына захоўвала дзіцячыя трупы? Да прыкладу, у Расіі развіваецца падпольны бізнэс: ствалавыя клеткі бяруць у немаўлятаў, якія пасля родаў памерлі, альбо з пладоў на позніх стадыях цяжарнасці (аборты робяць нягледзячы на забарону). Затым гэтыя клеткі колюць дарослым, што выклікае амаладжальны эфект. Аднак дактары выявілі, што такія працэдуры прыводзяць да раку.

Разам з тым, ствалавыя клеткі выкарыстоўваюць у касметычнай прамысловасці. І хаця, па словах спецыялістаў, такія крэмы не даюць ніякага эфекту, людзі ўсё роўна гатовыя плаціць вялікія грошы за прафанацыю.

Адкуль і нашто мінчанка захоўвала замарожаныя эмбрыёны? Толькі пасля экспертызаў можна будзе нешта сцвярджаць адназначна.

**Кастусь Матушыч**



Святлана гадавала непаўналетніх сына і дзвюх дачок.

ФОТА З САЦЫЯЛЬНЫХ СЕТАК

**Вышук**



27-гадовы мужчына падазраецца ў махлярстве. Ён пазычыў у сакурсніка па каледжы два ноўтбукі, якія прадаў за 500 даляраў. Затым 100 даляраў пазычыў у знаёмай і не вярнуў. Грошы спусціў у казіно. Аказалася, мужчына — лудман са стажам. Не выключаюць, што выпадкаў махлярства больш.

Партызанскае РУУС шукае людзей, якія маглі пацярпець ад мужчыны. Тэлефанаваць на: (017) 230-34-34, (029) 883-23-96.



Бабруйскі РАУС расшуквае Дамакура Уладзіміра Мікалаевіча, 1964 года нараджэння. Ён падазраецца ў згвалтаванні. Прыкметы: мноства каронак на зубах з белага металу. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, просьба тэлефанаваць: (0225) 48-29-22, (029) 662-38-64.



Расшукваецца Аўраменка Сяргей Вітальевіч, ураджэнец Ленінграда. У сакавіку 2012 ён пакінуў дом у в. Арэшнікі Смалявіцкага раёна, і больш яго сваякі не бачылі.

Прыкметы: на выгляд 36 гадоў, рост 175—180 см, хударлявы, твар трохкутны, лоб высокі, вочы блакітныя. На жываце — шнар пасля аперацыі апендыцыту. Пакутуе на маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз.

Хто ведае, дзе Сяргей цяпер, просьба патэлефанаваць: (01776) 5-42-18, (044) 739-86-60.

# Расеец на «БМВ» праскочыў праз беларускую мяжу па-галівудску

Замест таго каб паказаць дакументы, ён **збіў шлагбаумы**.

Расеец на крадзенай «БМВ» праскочыў польска-беларускую мяжу. Ён змог тое зрабіць толькі таму, што ў вялікі мароз не спрацавала сістэма прымусовага спынення, якая б наглуха заблакавала праезд аўтамабіля. Памежнікі зарыентаваліся і выставілі загароды, але шлагбаумы не стрымалі парушальніка.

Затрымалі «героя» 22 студзеня, на другі дзень пасля ягонага галівудскага прарыву праз граніцу за 40 секунд. Вычапілі яго ў глухой лясной вёсцы Гута за кіламетраў 15 ад мяжы. Цяпер ён сядзіць у следчым ізалятары ў Брэсце. Супраціву расеец не аказаў.

Як расказаў «Нашай Ніве» намеснік начальніка Брэсцкай памежнай групы Дзмітрый Дзявятаў, гэта 23-гадовы хлопец, магчыма, ён быў п'яны. А па дарозе ў Гуту яшчэ трапіў і ў аварыю. Усю гэтую інфармацыю цяпер удакладняюць эксперты.

Вясковец, які прытуліў хлопца, не ведаў, у чым справа. Кіроўца сказаў яму, што дзве ночы ехаў з Нямеччыны, заблукаў, не спаў, стаміўся. А ў дадатак яшчэ і трапіў у аварыю. Чалавек і пусціў падарожнага да сябе ў дом.

Кіроўца на BMW з транзітным нумарам праскочыў мяжу 21 студзеня каля 8-й гадзіны раніцы. У часе ўсёй гэтай эскапады ніхто не пацярпеў. На польскі пункт пропуску «Славатычы» расеец уехаў напярэдадні ў 21.30. Ноч яго правяралі. Высветлілася, што яго «БМВ» за дзень да гэтага быў скрадзены ў Германіі, дзе сам кіроўца меў від на жыхарства. Каб уратавацца ад затрымання, малады чалавек пакінуў дакументы на мяжы і кінуўся наўцёкі на аўто. Крымінальная справа заведзеная за незаконнае перасячэнне мяжы.

**Сяргей Макарэвіч**

# Уседарожнік расійскага байкера пайшоў пад лёд на Нёмане

Сябры кіроўцы каталіся па лёдзе на квадрацыклах, а ён вырашыў далучыцца да іх на **Toyota Land Cruiser**.

Каля вёскі Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна госці турбазы «Высокі бераг» з Расіі вырашылі пакатацца па лёдзе на квадрацыклах. Да кампаніі далучыўся кіроўца Toyota Land Cruiser. Ён праехаў па лёдзе каля 15 м, пасля чаго ўседарожнік пайшоў пад лёд. Гаспадар паспеў выбрацца на бераг. Затоплены аўтамабіль выцягвалі з Нёмна.

На турбазе праводзілі злёт байкераў з Санкт-Пецярбурга. «Паехаў ужо ад нас гэты чалавек. Пагрузіў на платформу машыну і паехаў», — расказалі нам у Мікалаеўшчыне.

**Сямён Печанко**



Вось так прыгожа ўсё пачыналася.

# Трымаў мёртвае дзіця за ножку і біў ім аб падлогу

Абсалютна **дзікі выпадак** здарыўся ў Жодзіне.

26 студзеня ў Жодзіне двух маладых фельчараў, выкліканых на месца здарэння, на парозе сустрэў «звер у чалавечым абліччы, які трымаў мёртвае дзіця за ножку і біў аб падлогу». «Што ў гэты момант перажылі мае калегі, толькі Богу вядома. Гэта жах», — расказвае жодзінскі фельчар Аляксандр Валчанін.

Валчаніна выклікалі на месца трагедыі, каб канстатаваць смерць дзіцяці. Там ужо працавала брыгада «хуткай».

«Яму не больш за 50 гадоў. Гэта сужыцель бабулі, гаспадыні хаты: ёй таксама дзесьці пяцьдзясят. Дзеці прынеслі сына, каб бабуля яго паглядзела. Яна вымыла ўнука, памяняла памперс. Але хлопчык пачаў плакаць — хацеў да мамы».

На дзіцячы плач хахаль зрэагаваў зусім не палюдску. Ён схапіў сякерку для мяса і перарэзаў маламу шыю. Бабулі ў гэты час не было побач. Калі яна ўбачыла, што адбылося, то схапіла нож і парэзала сужыцелю шыю. Мужчына сам патэлефанаваў у «хуткую» і паведаміў, што ў яго ідзе крoў.

У жодзінскай міліцыі пацвердзілі смерць дзіцяці. Затрымалі 53-гадовую жанчыну і яе 43-гадовага сужыцеля: высвятляецца ступень датычнасці кожнага да забойства.

**СМ**

## Сцісла

### «Заміраваў» РАУС

Уначы 24 студзеня каля будынка РАУСа Бярозы затрымалі студэнта. Хлопец заклаў у гурбу снегу прадмет, падобны да самаробнай выбухоўкі. Давялося выклікаць сапёраў. Аказалася, што муляж створаны з пластмасавай мыльніцы з металічнай пласцінай унутры і металічным ліхтарыкам вонкі. Вядзецца разбор.

### Разаграваў замерзлы бак і абпаліў галаву

У кожнага свае сакрэты, як прагрэць аўто ў 20-градусны мароз. Мінчук, кіроўца МАЗа, паднёс пад паліўны бак агонь. Выбухнулі пары паліва. Мужчына з тэрмічнымі апёкамі галавы, шыі, ног 1-3 ступеняў шпіталізаваны.

### Забіў сына

У Магілёве за забойства чатырохмесячнага хлопчыка асуджаны яго бацька. Яго адправілі ў калонію на 18 гадоў. На судзе мужчына даводзіў, што малое само звалілася з канапы на падлогу. Эксперты ж паказалі, што мужчына быў п'яны, і сам стукнуў сына па галаве.

### Атрымлівала пенсію за памерлую маці

Беларуска з'ехала жыць у Эстонію і забрала да сябе маці-пенсіянерку. А знаёмай з Баранавічаў высылала даверанасць на атрыманне пенсіі. Калі маці памерла, дачка пачала падрабляць дакументы. Выкрылі яе праз тры гады. Яна атрымала 39 мільёнаў рублёў.

**КМ**

# Матылі і камяні Паліны Качатковай

Чаму **таленавітая пісьменніца** больш не піша?



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Нагодай для гутаркі з Палінай Качатковай стаў выхад яе кнігі «Матылі». Зборнік складаецца з апавяданняў і эсэ, якія аўтарка пісала дваццаць гадоў. Творы цікавыя, тонкія і стылёвыя, а кніжка тоненькая-тоненькая... Але гэта рэдкі ў апошнія часы выпадак, калі за кожным словам стаіць больш чым адзін сэнс...

Кніжка Паліны Качатковай трапіла ў лонг-ліст літаратурнай прэміі імя Гедройца. Сама аўтарка кажа, што гэта для яе першая і апошняя кніга мастацкай прозы. Чаму таленавітая пісьменніца больш не піша? Што перашкаджае? Бракуе таленту, грошай, часу? Чаму увогуле так мала ў беларускай літаратуры прарываў, чаму чытачы ўжо стаміліся чакаць шэдэўраў? Ці трэба — і як? — дапамагаць таленту?

**Наталка Бабіна: Адкуль Вы родам? Беларуская мова ад сям'і ці гэта свядомы выбар?**

**Паліна Качаткова:** Я нарадзілася ў Оршы 44 гады таму. Але толькі нарадзілася, мая сацыялізацыя адбывалася ў Магілёве, Гомелі. У гомельскай школе, дзе я вучылася, была вельмі добрая і вельмі суровая настаўніца беларускай мовы. Яна, напрыклад, за секундную затрымку з адказам на пытанне пра «пасляваенную лірыку Янкі Купалы» (педагагічная правакацыя: пасляваеннай лірыкі Купалы не існуе) магла ўлупіць вучню венікам па галаве. Або за нейкую правіну патрабавала намаляваць на дошцы схему пераездаў сям'і Коласаў. Гэта былі гвалтоўна ўбітыя веды, але веды яна нам дала. А дырэктар школы Раальд Зянонавіч Грахоўскі, насуперак паўсюднай практыцы тых гадоў, нікога не вызваляў ад беларускай мовы. Да слова, у гэтай школе вучыўся і пісьменнік Уладзіслаў Ахроменка, ён на некалькі гадоў старэйшы за мяне.

**НБ: А як Вы пачалі пісаць?**

**ПК:** Пішу з 17 гадоў. У апошнія школьныя гады ў Гомелі я пазнаёмілася з Алесем Бяляцкім — ён быў сябрам нашай сям'і, прыходзіў да нас дамоў. Менавіта ён параіў мне паступаць на філфак. Алесь у той час вучыўся ў аспірантуры. Бывала, ён казаў мне: «Без апавядання да мяне не прыходзь». Пасля ўніверсітэта я пачала працаваць у Музеі Багдановіча, дырэктарам якога ён быў. Калі ён пайшоў адтуль у праваабарончы цэнтр «Вясна», я сышла з ім.

**НБ: Мне здаецца, найлепшыя апавяданні ў Вашай кнізе — напісаныя ў пачатку 1990-х…**

**ПК:** 1990-я гады — найлепшы час. Тады я добра выглядала, мела добрую працу ў музеі, на Глобуса тады мы радасна працавалі — кнігі рабілі...

У праваабарончым цэнтры было ўжо не да пісання. У «Вясну» з раднаснымі навінамі не звярталіся. Я вельмі адчувальная да чужога болю. А тэлефон проста разрываўся, і было жаданне ўсім дапамагчы... А ўсім дапамагчы немагчыма. Там, у «Вясне», мы з Таццянай Равякай і Таццянай Снітко падрыхтавалі і выдалі кнігу пра трагедыю на Нямізе — каля 600 старонак, але гэта дакументальная проза, нонфікшн...

У 2006, у паслявыбарчы перыяд, калі я ў «Вясне» займалася і сайтам, і адказвала на ўсе тэлефанаванні сваякоў пацярпелых на Плошчы і ў рэгіёнах — помніцца, і Вы мне тады званілі, — у мяне здарыўся нервовы зрыў. Я сябе вельмі кепска адчувала, нават пачалі выпадаць валасы пасмамі. Адначасова пачала хварэць бабуля. У ноч з 17 на 18 снежня 2006 я ў парыве эмоцый, на таксі за 100 даляраў, прыехала ў бабулін вялікі дом у Оршы, на беразе ракі. 8 сакавіка 2007 бабуля памерла. Я думала, што буду жыць у Оршы, сустракаць заходы і світанкі, назіраць прыроду, але адаптавацца там не змагла.

**НБ: А чым Вы зарабляеце на жыццё?**

**ПК:** Сцэнарамі, рэдактарскай працай. А «Матылі» — мая першая і, напэўна, апошняя друкаваная кніга мастацкай прозы. Ёсць яшчэ раман «Паэт» пра юнацкія гады Максіма Багдановіча, але ён існуе толькі ў электронным выглядзе. Яго мне параілі ў 1995-м напісаць Алесь Бяляцкі і Адам Глобус. Я прыходзіла на працу ў музей а 17.00, калі працоўны дзень там заканчваўся, і працавала да ночы на музейным камп'ютары: па 7—10 старонак за змену. Напісанае па частках друкавалася ў часопісе «Бярозка». Тэкст можна пабачыць на маёй аўтарскай старонцы на «Камунікаце».

**НБ: Не пішацца Вам цяпер?**

**ПК:** Не.

**НБ: Чаму?**

**ПК:** Няма матывацыі. Мне патрэбная нейкая дысцыплінарная прастора. Калі знаходзіцца чалавек, які мне кажа «працуй», — я працую. А так, самой... Для чаго мне пісаць? Для каго?

**НБ: Ці адчуваеце сябе ўключанай у пісьменніцкі асяродак?**

**ПК:** Не, і ніколі не адчувала. Сяброўка сказала: якая ты пісьменніца? Ты ж не тусуешся з пісьменнікамі, а трэба быць у тусоўцы.

**НБ: Ну, тусавацца зусім неабавязкова… Пісаць абавязкова.**

**ПК:** Пра мае тэксты пісалі ў інтэрнэце, што гэта тэксты самотнай вар'яткі...

**НБ: То што, Вы незадаволеныя, што кніга выйшла?**

**ПК:** Я ўдзячная Барысу Пятровічу, які падышоў да мяне і прапанаваў выдаць, бо інакш кнігі ўвогуле не было б. Але яна трохі недаробленая выйшла. Тут і мая вялікая віна, бо я не вельмі цікавілася, як прасоўваецца справа з выданнем. На кнізе стаіць падзагаловак «Навелы», але тут не толькі навелы. Мне гэтае пытанне цяпер часта задаюць: ты што, не ведаеш, што такое навелы? Ведаю. І ведаю, што ў кнізе не толькі навелы, а розныя тэксты.

**НБ: І ўсё ж ці пішаце цяпер нешта?**

**ПК:** Апошнім часам рыхтавала да друку кнігі Алеся Бяляцкага «Асвечаныя беларушчынай» — літаратуразнаўчыя артыкулы, крытыка, эсэ. Гэта тэксты, якія Алесь пісаў з 1986 года, часткy ўжо за кратамі. 468 старонак выйшла. У канцы студзеня будзе прэзентацыя.

Апошні мастацкі тэкст, які напісала, — «Здрада цела», ён увайшоў у кнігу.

У мяне была ідэя музейнага дэтэктыва. Я нават пісала яго, доўга пісала. Пасля спаліла ў лесе на Дражні восеннню 1994 года...

**НБ: Музейны дэтэктыў, напісаны Вамі, — гэта павінна быць цікава. Апошні дэтэктыў, які я чытала па-беларуску, «Сутарэнні Ромула», выклікаў у мяне нейкае адпрэчванне, якое я не магу сабе патлумачыць. Нібы і сюжэт моцны, і ідэалагічна ўсё правільна…**

**ПК:** «Сутарэнні Ромула» я не асіліла. Можа, гэта для дзяцей? Для дарослага чалавека там няма эмоцый. Крытык Антон Навіна (Антон Луцкевіч) яшчэ ў 1928 годзе ў кнізе «Адбітае жыццё» сфармуляваў: калі твор дае эмоцыю, «аналагічную любоўнаму экстазу», то гэта «чыстая краса», і твор ёсць. Не дае — твора няма. Тады гэта бяздушны Голем (гэта ўжо не Антон Навіна — гэта я так думаю).

**НБ: Ці даўно чыталі цікавую беларускую кнігу?**

**ПК:** Я Кастуся Тарасава люблю чытаць. Алену Браву з радасцю чытаю, «Менада і яе сатыры». Мне блізкія гэтыя праблемы, блізкі гэты жорсткі псіхалагізм.

Вы, да слова, другі журналіст, які звяртаецца да мяне па інтэрв'ю як да пісьменніцы. Першай была Таццяна Сапач, якая запісала са мною перадачу ў канцы 2007 года.

**НБ: Сама Таццяна засталася ў беларускай літаратуры назаўжды, хаця ў яе таксама была толькі адна танюсенькая і маленечкая, але бязмерна таленавітая кніга — «Восень». А Вам я жадаю, каб Вы ўсё ж напісалі і выдалі яшчэ прынамсі адну кнігу, такую ж таленавітую, як «Матылі», а то і лепшую.**

* * *

«Ёсць словы, якія не варта казаць.

Ёсць рэчы, якія не варта ведаць.

Давайце пагаворым пра матылёў».

Так пачынаецца першае апавяданне ў кнізе Паліны Качатковай.

Прачытайце і далей, кніга таго вартая.

**Гутарыла Наталка Бабіна**

**Паліна Качаткова**

нар. у 1969 у Оршы. Пісьменніца. Працавала ў Музеі Багдановіча і праваабарончым цэнтры «Вясна». Жыве ў Мінску.

## Сцісла

### У Мінску забаранілі выступ гродзенскага гурту Dzieciuki

Гурт музыў у суботу ўвечары выступіць у мінскім клубе Jolly Roger Cafe. Але «дзецюкам» сказалі нават блізка не падыходзіць, інакш затрымаюць. Каля клуба дзяжурыў аўтазак, вуліцу патруляваў АМАП. Праблемы з канцэртам пачаліся пасля званка «з вышэйшых інстанцый». Праект Dzieciuki быў заснаваны ў Гродне летась з удзелам былога вакаліста «Кальяна» Алеся Дзянісава, грае фолк-панк на беларускай мове. Частка тэкстаў прысвечаная беларускім героям-паўстанцам розных часоў — каліноўцам, балахоўцам, «лясным братам».

### Найлепшы фільм года — «Аперацыя Арго»

Гільдыя кінаакцёраў ЗША абвясціла пераможцаў 19-й штогадовай прэміі. У намінацыі «Найлепшы акцёрскі склад» пераможа фільм Бена Афлека «Аперацыя Арго». За найлепшую мужчынскую ролю ўзнагародзілі Дэніэла Дэя Льюіса, які сыграў прэзідэнта ЗША ў фільме «Лінкальн», а найлепшай у жаночай ролі была прызнаная Джэніфер Лоўрэнс за працу ў стужцы «Мой хлопец — псіх». У тэлевізійных намінацыях пераможцу атрымалі «Абацтва Даўнтан» («драматычны серыял») і «Амерыканская сямейка» («камедыйны серыял»).

### На вечарыне Каліноўскага ў Іркуцку паспрачаліся беларусы і палякі

У суботу ў Іркуцку адбыўся круглы стол «Паўстанне 1863 года: факты і каментары». Прысутнічала больш за трыццаць чалавек. Былі палякі, украінец, рускія, але больш было беларусаў — чалавек дваццаць. Прагучалі даклады пра паўстанне — і беларускі, і польскі пагляд. Спрэчка атрымалася моцная, але і цікавая. Погляды былі супрацьлеглыя. Але не «пабіліся». Разыходзіліся, прыязна паціскаючы адзін аднаму рукі.

### Глеб Лабадзенка выпусціў кнігу «Дзіцячая заМова» — сам маляваў!

Журналіст і блогер Глеб Лабадзенка выпусціў незвычайную кнігу — «Дзіцячая заМова" складаецца са 112 прыкладаў моўных памылак. Кніга цалкам намалявана — у ёй няма ніводнай друкаванай літары. Малюнкі, якія тлумачаць розніцу паміж «стулам» і «крэслам», «сабе» і «сябе», стылізаваныя пад дзіцячыя. Кніга мае кардонную вокладку і надрукавана на грубай паперы — выглядае як добры сувенір для тых, хто пачынае вучыць беларускую мову. Пасляслоўе да кнігі напісаў Рыгор Барадулін.

**СМ; Андрэй Сямакін**

# Людзі на вёсцы зусім безабаронныя

Безабаронныя людзі на вёсцы, зусім безабаронныя. Уласную зброю мець забараняе ўлада. Міліцыя прыязджае, але толькі пасля забойстваў.

У вёсцы немагчама нават адміністрацыйную справу ажыццявіць. Сведкаў міліцыя не знаходзіць.

Вёска жыве сваім жыццём, па сваім законе. І ў кожнай вёсцы ён свой.

400 гадоў таму, мяркуючы па перапісе войска ВКЛ, чалавек мог знайсці абарону побач.

Долмат, уладальнік Цапры, вёскі пад Клецкам, у 1528 годзе выстаўляў чатырох узброеных вершнікаў. Каб такое пацягнуць у тыя часы, трэба было мець пад сваёю рукою 64 двары, дзе жыло каля 400 душ. Тыя ж шляхціцы, хто не выстаўляў вояў у войска, не маючы пад сабою халопаў, ішлі самі. Ішлі са сваёю зброяй. А што цяпер? За сваё жыццё на вёсцы можа быць спакойны толькі міліцыянт. А ці ў кожнай вёсцы жыве міліцыянт?

Любога чалавека з Мінска ў такіх вёсках могуць давесці да таго, што ён і на забойства можа пайсці. Там ані спачування, ані культуры не знойдзеш часам.

Пражыўшы ўсяго паўтара месяца ў вёсцы, дзе я правёў калісьці сваё дзяцінства, я ледзь не ссівеў.

Суседка не ўмее чытаць. Жывуць нібы па старадаўняй паказцы Homo homini lupus est — чалавек чалавеку воўк. Рэлігійны фанатызм.

Хлопцы, у каго ёсць прызыўнога веку, татальна ва ўнутраных войсках. Раённая газета друкуе фота да Дня маці — бравы спецназавец з букетам кветак крочыць па сцэне вайсковым крокам насустрач шчаслівай маме. Сын укормлены, абуты, адзеты і галоўнае — яму не ў Афганістан, а ў Мінск, у казарму, што на вуліцы Маякоўскага.

Дзе гаспадар слабейшы ў вёсцы — добрыя суседзі робяць сметнік. Валяць платы, каб на соткі «праклятых мінскіх дачнікаў» хадзілі іх куры.

Кідаюць бітае шкло пад яблыні. У вочы гавораць нялюбым ім старым з Мінска, што хату тваю сапхнуць бульдозерам, а цябе, маўляў, старую, забяруць у дом-інтэрнат для састарэлых.

Гэта жах, людзі. У Цапры дырэктар Клецкага дома культуры прыбраў з вачэй бібліятэку. Дзвярэй на ёй не было, дах праваліўся, печ пачалі разбіраць. І сапраўды, нашто цапранам бібліятэка. Хай застаюцца царква і могілкі. Тая баба 80-ці гадоў, што падлогу мяце ў царкве, лічыць, што так і трэба. Бібліятэка ёй непатрэбная. Яна чытаць не ўмее. А ў маладой сям'і побач — двое дзетак школьнага веку. У школу бацька возіць кожную раніцу ў Янавічы — аграгарадок...

Вайна, людзі. Неаб'яўленая вайна.

**Гаротны, Клецкі раён**

## Дзякуй тэлеканалу АНТ за «Навагодні агеньчык»

Беларусы, **радуйцеся і ганарыцеся**!

Упершыню за 18-гадовае кіраванне Лукашэнкі тэлеканал АНТ падараваў жыхарам Беларусі цалкам беларускамоўны «Навагодні агенёк». На жаль, у святочную праграму не ўпісваліся знешне сімпатычныя і інтэлігентныя расейскамоўныя вядоўцы. 2 гадзіны з вуснаў выканаўцаў, як бясконцая крынічка, гучалі толькі беларускія песні. І ў гэты час забыліся няспынныя нявыкананыя просьбы да прэзідэнта і чынавенства і пратэстнае змаганне за родную і першую дзяржаўную беларускую мову, культуру.

Маё ўспрыманне гэтай важнай падзеі: кіраўніцтва АНТ, стваральнікі і ўдзельнікі навагодняга агеньчыка нарэшце па-добраму прафесійна раззлаваліся і вырашылі самім сабе як прафесіяналам даказаць, а тэлегледачам паказаць, што тэлебачанне ў Беларусі можа і павіннае быць як ва ўсіх краінах — нацыянальным, што час спыніць гуманітарную катастрофу з беларускай мовай — асновай беларускай культуры.

Удзельнікі навагодняга агеньчыка яскрава і пераканаўча прадэманстравалі і пацвердзілі поўную самадастатковасць сучаснай беларускамоўнай эстрады — асновы сучаснай шоу-індустрыі.

Мая просьба да кіраўніцтва АНТ: абавязкова паўтарыць, і не адзін раз, «Навагодні агеньчык» і прапанаваць яго іншым каналам.

**Мікола Савіцкі, пенсіянер, у мінулым — прафесар БДЭУ, Мінск**

### Удакладненне

У №3 быў памылкова пазначаны год смерці паэткі Яўгеніі Янішчыц. Яна пражыла 40 гадоў, а загінула ў 1988 годзе, а не ў 40-м. Перапрашаем.

## «Дзякую ўраду за кароткую старасць»

Прачытаў, што ў Беларусі, згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя ад 21.12.2012, падаражэлі лекі айчыннай вытворчасці: сардэчныя, супрацьінфекцыйныя і супрацьпухлінныя прэпараты ад 6 да 20%. А за мінулы год цэны на лекі ўвогуле выраслі на 27,8%.

У мяне, пенсіянера, неяк адразу на душы зрабілася спакойна і нервы сціхлі — не турбуюць уночы. Цяпер не трэба хвалявацца за сваё здароўе, каб падоўжыць свой век, каб як-небудзь дацягнуць да адведзенага мне апошняга рубяжу. Цяпер ужо не куплю ў аптэцы тых самых сардэчных прэпаратаў, калі раптам зашчыміць сэрца. Дзе ж цяпер іх дакупішся? Хапіла б пенсіі на хлеб ды малако, а лекі ўжо як прыйдзецца.

Хачу падзякаваць ураду нашаму за клопат пра мяне, каб доўга ў гэтым жыцці не хварэў, а адразу, з першымі сімптомамі хваробы, рыхтаваўся ў апошні шлях. Дзякую.

**Міхась Спірыдовіч, пенсіянер, Івянец (Валожынскі раён)**

## Выпадак у Оршы

Вучуся я ў Наваполацку, а жыву ў Аршанскім раёне, таму дарога няблізкая. Вяртаўся з сесіі. Чакаючы ў цэнтры Оршы аўтобуса, я заўважыў, што людзі на прыпынку падазрона збіраюцца ў групу. Я вырашыў пагледзець, што здарылася. Як высветлілася, на лавачцы сядзела ладна падпітая жанчына і замярзала. Але па ёй нельга было сказаць, што яна п'яніца, проста так выйшла (ну з кім не бывае).

Навакольныя спрабавалі яе падняць з металічнай лавачкі, але яна ярасна супраціўлялася. Неўзабаве на гэты шумок падцягнуліся ахоўнікі закона. Паспрабаваўшы падняць жанчыну і атрымаўшы адмову, яны проста адышлі. Праз пэўны час жанчына пачала прыходзіць у сябе. Падышоў аўтобус, які быў ёй патрэбны. Некалькі чалавек разам са мною пасадзілі яе ў аўтобус, некаторыя сказалі, што давядуць жанчыну да кватэры. Так яна і з'ехала. А супрацоўнікі міліцыі пайшлі далей па маршруце.

**Васіль, Орша**

# Беларуская глыбіня. **Калі Кітай пакаецца**

Піша **Павел Севярынец**.

*За тое вось, Я аддам цябе у спадчыну сынам Усходу...*
*Езэкіль 25:4*



**Павел Севярынец**
палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Гісторыя пружанская. Адбываецца ў былым вайсковым гарадку Шчарчова ў 30-ці кіламетрах ад райцэнтра, дзе цяпер вырошчваюць гародніну кітайцы.

Сядзіць, значыць, старшыня сельсавета ў сваім кабінеце, за сталом, па-над галавой партрэт, усё як належыць. Заходзіць кітаец — і з парога проста ў лоб:

– Давай землю, падлюка!

Старшыня як быў — так і абалдзеў. Мабыць, падумаў: усё. Вось яно, значыць... А мо так і трэба?.. Сядзіць, агаломшаны, утаропіўся ў гэтыя вузкія вочы, што тваё танкавыя сматравыя шчыліны...

А кітаец нецярпліва:

– Ні хочэш пад люка, ну давай пад чэснока!

Старшыня пасля расказваў: даў ім такую зямлю, каб ані люка, ані часнока не вырасла.

Што кажуць пра кітайцаў у Шчарчове? Цяснюцца на нарах у былых вайсковых казармах. Праца ручная — матыка цэлы дзень. Пекінская капуста, у якую льюць нітраты і якой пружанцы гідзяцца. Першы год ураджай увогуле вывезлі на сметнік. Памідоры зжэрла фітафтора. Смурод ад смажанай кількі па ўсім наваколлі. У вёсках прападаюць куры ды сабакі... Першая партыя кітайскіх рабочых з голаду рванула на Мінск, дзе іх затрымлівала міграцыйная служба — і вяртала назад, каб урэшце адправіць дахаты, у Паднябёсную...

Другая кітайская хваля абсталявала ў Шчарчове цяпліцы. Жэрдкі з нацягнутай плёнкай. А ўсярэдзіне — звычайныя абагравальнікі і градкі. Незразумелы кабель цягнецца да цяпліцаў з самай далечыні раптоўнай здагадкі: гэта ж які сабекошт тае абагрэтае капусты?

Магчыма, у салодкіх еўразійскіх мроях беларускім чыноўнікам уяўляўся запаветны даўжэзны кітайскі агурок, ад якога (хоць і трава травой) можна адрэзаць кавалак на салатку, колькі трэба, а ён расце сабе далей...

Кітай ужо тут — і не пытаецца, як сябе паводзіць. Запамінальнае агуканне па-кітайску ў беларускіх крамах: заходзяць і абмяркоўваюць па-свойму так гучна, што, ну, хлопцы, адчуваеш сябе зусім госцем. Яшчэ вучыўся ў Мінску — жыў побач з інтэрнатам, населеным кітайцамі і в'етнамцамі. Бацькі ў Віцебску ачомваюцца: кітайцы будуюць на Дзвіне электрастанцыю. Нават у ссылцы нікуды ад іх не падзецца, вось табе маленькі чайнатаўн у Шчарчове. А старэйшая сястра Ганна якраз пераязджае ў Смалявічы...

О-о, Смалявічы!..

80 квадратных кіламетраў пад Смалявічамі ўжо вызначылі пад гіганцкі тэхнапарк. Давай, як той казаў, зямлю. І маленькімі групамі па 5 мільёнаў чалавек...

— А што, я б кітайцаў узяў, — ажывіўся, пачуўшы пра Кітай-горад, наш гаспадар. Так і ўявіліся шматлікія, дробненькія, жаўцявыя, з вочкамі, што твая бульба, дзеці Усходу ў Купліне за пераборкай «скарбу»!

Кітайскім рабочым-мужчынам, круці ні круці, запатрабуецца сувымерная колькасць жанчын (чаго тут гадаць, з нашым адсоткам самотных беларусак цэлае пакаленне *кітарусаў* — пытанне недалёкага часу).

Ды ў Беларусь так і просіцца тэхнапарк, пабудаваны з дапамогаю Еўрасаюза і Штатаў (уласна, крыніцаў найноўшых тэхналогіяў), ды каб працавалі дома, а не ў Расіі, беларусы!..

Колькі яшчэ апошніх кітайскіх папярэджанняў патрэбна, каб сказаць: Кітай, кропка, бай...

Ці лёгка беларусу стаць кітайцам? Можна было б спытаць у Фаіны Вахірэвіч з-пад Оршы, якая ў 1935, працуючы токарам на «Уралмашы», выйшла замуж за сына Чан Кайшы, Цзян Цзінга, і ў 1978 пад імем Цзян Фанлян стала першай лэдзі Кітайскай Рэспублікі Тайвань. Менавіта яе, беларусачку, што дасканала асвоіла кітайскія традыцыі (а ў 1994 атрымала з рук афіцыйнай дэлегацыі бел-чырвона-белы сцяжок незалежнай Беларусі), дзеці дома называлі па-беларуску «маці» — а ўдзячныя тайванцы — «маці нацыі»...

А ці лёгка кітайцу стаць беларусам? Цзыўай Рафаэль Со, брытанскі грамадзянін кітайскага паходжання (сям'я эміґравала з Ганконга), каторы хрысціўся ў грэка-каталіцкай парафіі святых Пятра і Паўла, сёння вывучае беларускую і будуе нашу царкву ў Лондане, сведчыць: якіх толькі цудаў не творыць Госпад!..

Кітайцы — золата Бога, перакананы беларускі паэт, інак Мікалай Бембель з Жыровічаў. Калі Кітай пакаецца і прыме Хрыста...

О, калі Кітай з 1,5 мільярда насельніцтва і трыльёнамі ВУП пакаецца!..

А пакуль Кітай не выракся камунізму, не пайшоў шляхам Чан Кайшы з ягонымі сімпатыямі да хрысціянства, пакуль мы самі яшчэ не атрымалі загаду рабіцца кітайцамі (як у свой час расейцамі, палякамі ці савецкімі), пакуль кітайцы масава не збеларушваюцца, нам самім згадаць бы, што гэтую вось зямлю — і ў Смалявічах, і ў Лужасне, і ў Шчарчове — разам з пранізлівай біблейскай гісторыяй, евангельскай нацыянальнай ідэяй і падмуркам веры на тысячагоддзе ўглыб даў у спадчыну ніякім не кітайцам, а нам, беларусам, Уладар сусвету і ўсяго паднябесся, Госпад Бог...

*Куплін*

**Магчыма, у салодкіх еўразійскіх мроях беларускім чыноўнікам уяўляўся даўжэзны кітайскі агурок**

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.

**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by. Факс: (017) 284-73-29**

# Гісторыя Беларусі. Частка XXVII

## Усяслаў Полацкі: ад поруба да кіеўскага пасада

Піша **Алег Дзярновіч.**

Мы развіталіся з Усяславам у 1067 на Нямізе, пасля бітвы. Паўднёварускія князі Яраславічы, што нібыта перамаглі, не даганялі разбітага полацкага князя. Выглядае, і іх страты былі немалыя. Пачынаецца самая легендарная частка біяграфіі Усяслава, найпадрабязней апісаная ў летапісах.

Наступны раз яны сустрэліся 10 ліпеня таго ж 1067. Паўднёварускія браты-князі Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад Яраславічы запрасілі полацкага князя на перамовы, што мелі адбыцца пад Оршай. Гарантуючы яго недатыкальнасць, яны пакляліся самай страшнай з тагачасных клятваў: цалавалі крыж. Усяслаў з двума сынамі пераправіўся ў чаўне цераз Дняпро. Чаму полацкі князь узяў на перамовы сыноў? Паводле тагачаснага цырымaніялу, гэта магло азначаць, што на сустрэчы мусілі абмяркоўвацца тэрытарыяльныя пытанні.

Але палачане нават не паспелі ўвайсці ў шацёр Яраславічаў: іх схапілі, адвезлі ў Кіеў і кінулі ў вязніцу-поруб. Невядома, колькі Усяслаў з сынамі быў бы ў няволі, калі б не магутны знешні фактар — полаўцы.

### Кіеўскае паўстанне

Палавецкія ханы ў 1068 на рацэ Альце ўшчэнт разбілі войска Яраславічаў — як адзначае летапісец, за грахі іх многія. Ізяслаў замкнуўся ў Кіеве, полаўцы ж пачалі рабаваць наваколлі. 15 верасня 1068 на рынку кіеўцы склікалі веча і запатрабавалі ад князя Ізяслава коней і зброі, каб бараніцца. Ізяслаў не адважыўся ўзброіваць народ, і гэта стала сігналам да паўстання.

Раз'юшаны натоўп рушыў да сядзібы кіеўскага ваяводы Каснячкі, але не заспеў яго дома. Каля «Брачыслававага двара», на якім спыняліся полацкія «госці», раптам узнік новы лозунг: «Пойдзем, вызвалім нашу дружыну з пограба!». Натоўп падзяліўся на дзве часткі: адна рушыла да месца зняволення Усяслава, другая — праз мост да двара князя Ізяслава.

Калі экзальтаваны натоўп набліжаўся да рэзідэнцыі, Ізяславаў дружыннік Тука, сын Чудзіна, прапанаваў забіць Усяслава: «...прывабіць падманам да акенца і праццяць мячом». Ізяслаў прапанову адрынуў.

**Што такое поруб**

У літаратуры сфармавалася ўяўленне, што поруб — гэта зруб, закапаны ў зямлю, у які вязня саджалі, разабраўшы накат бярвення, які выконваў ролю даху. Аднак ілюстратары летапісаў у XV ст. уяўлялі «поруб» як пабудову, што ўзвышалася над паверхняй зямлі і мела вокны. Дый пасля года сядзення ў «порубе» фізічнае здароўе Усяслава не было зламаным: перасядзець восень і зіму ў сырой халоднай яме было б цяжкавата.

**Тмутаракань**

чарнаморскі горад на Керчынскай паўвыспе, які перайшоў пад рускі кантроль у 960-я, пасля разгрому князем Ігарам Хазарскага каганата. Слова Тмутаракань стала назоўным, пазначаючы вельмі далёкі край. Зрэшты, адлегласць ад Кіева да яе была ненашмат далейшай, чым да Полацка.

### Міфічная веліч

Ізяславаў двор быў разгромлены і разрабаваны. Вызваленага Усяслава абвясцілі кіеўскім князем. Ізяслаў збег у Польшчу, да свайго зяця Баляслава II. Так у пачатку XI ст. прадзед Баляслава II, Баляслаў I, прыйшоў на дапамогу свайму зяцю Святаполку Тураўскаму, выгнанаму з кіеўскага стала. Гэта сведчыць, што Польшча стала прысутнічала ў справах Усходняй Еўропы.

Летапісы маўчаць пра дзейнасць Усяслава на кіеўскім пасадзе, дзе ён прабыў усяго сем месяцаў. Затое важныя для далейшай інтэрпрэтацыі постаці Усяслава культурныя сімвалы ўтрымлівае «Слова пра паход Ігаравы»:

Усяслаў князь людзям чыніў суды,
Радзіў князям гарады,
А сам уночы ваўком рыскаў.
З Кіева паспяваў да пеўняў
да Тмутараканя,
Хорсу вялікаму шлях перацінаў.

З паэтычных радкоў «Слова» такія розныя даследчыкі, як Барыс Рыбакоў і Мікола Ермаловіч, спрабавалі выбудаваць вобраз Усяслава — справядлівага суддзі і суверэна над рускімі князямі. Між тым, сапраўднасць «Слова» — пад вялікім пытаннем. Дый не будзем забывацца, што ў гэты самы час прывіднага трыумфу Усяслава ў яго родным Полацку па-ранейшаму сядзеў намеснік выгнанага Ізяслава, праўдападобна — ягоны сын Мсціслаў.



**Полаўцы**

цюркамоўны качавы народ, які ў пачатку XI ст. рушыў з тэрыторыі сучаснага Паўночна-Заходняга Казахстана ў прычарнаморскія стэпы і выцесніў адтуль печанегаў. Утварыўся Палавецкі стэп — гіганцкая канфедэрацыя плямёнаў ад Дуная да Іртыша. Мова полаўцаў, кіпчацкая, што належыць да алтайскай моўнай сям'і, стала ў XIII ст. «мовай міжнацыянальных зносінаў» у Залатой Ардзе. Ад кіпчацкай паходзяць сучасныя татарская, башкірская, нагайская, казахская.



**Князь Усяслаў з сынамі перапраўляецца праз Дняпро і трапляе ў кіеўскую вязніцу-«поруб». Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.**



**Паўстанне 1068 гада ў Кіеве.**



**Кіеўцы вызваляюць Усяслава з вязніцы.**

### Уцёк, бо не верыў?

У 1069 аб'яднаныя войскі Ізяслава і Баляслава рушылі ў бок Кіева. Яны сустрэліся з Усяславам ля Белгарада Кіеўскага, за дзесяць вёрст на захад ад сталіцы. І тут Усяслаў робіць нечаканы ход: у ноч перад бітвай, таемна ад кіеўскага апалчэння, ён пакідае стан і выпраўляецца ў бок Полацка.

Гэта не была баязлівасць — полацкі князь не раз даказваў, што гатовы на смелыя і адчайныя ўчынкі. Расійскі гісторык Тацішчаў тлумачыў учынак Усяслава недаверам да кіеўцаў. Відавочна, пазіцыя Усяслава, які апынуўся на вулкане ўнутраных канфліктаў у чужых уладаннях, была настолькі слабой, што полацкі князь нават не паспрабаваў уступіць у перамовы з праціўнікам.

Так скончылася спроба полацкіх уладароў замацавацца на кіеўскім пасадзе. Чым далей, тым менш Полацк мог уплываць на падзеі ў Паўднёвай Русі. Зрэшты, сам Полацк чакалі новыя выклікі.

**Нікан Пячэрскі (Вялікі)**

(пам. каля 1088) адзін з найвыбітнейшых інтэлектуалаў свайго часу. Быў сярод першых спадзвіжнікаў Антонія Пячэрскага, заснавальніка Кіева-Пячэрскай Лаўры. Ёсць меркаванне, што пад імем Нікана прыняў схіму мітрапаліт Русі Іларыён. Некалькі разоў трапляў у апалу, змушаны быў пакідаць Кіеў, заснаваў манастыр у Тмутаракані. Заахвочваў перапісванне кніг, быў рэдактарам першых рускіх летапісаў, надаў ім выгляд храналагічных запісаў па гадах.

### Забіваць стала неэтычна

Некаторыя эпізоды супрацьстаяння Усяслава і Яраславічаў прымушаюць выходзіць на этычныя праблемы.

На сярэдзіну XI ст. прыпадае стварэнне культу святых Барыса і Глеба. З палітычнага гледзішча гэта было звязана з імкненнем эліт Русі замацавацца ў хрысціянскім свеце, займеўшы ўласных святых заступнікаў. Кананізацыя рускіх князёў адбывалася на фоне змены стаўлення да забойстваў. Так, Яраславічы, падступна захапіўшы Усяслава ў 1067, садзяць яго ў поруб. Іх дзед, князь Уладзімір Кіеўскі, у аналагічнай сітуацыі знішчыў свайго брата Яраполка. Ізяслаў адмаўляецца ад спакусы забіць зняволенага Усяслава і падчас кіеўскага бунту 1068.

Сам Усяслаў, пры ўсіх сваіх «паганскіх атрыбутах», выступае як актыўны хрысціянізатар уласнага краю — ён узводзіць (ці, дабудоўвае?) у Полацку храм Святой Сафіі ды называе сваіх сыноў Барысам, Глебам, Раманам і Давыдам. Гэта значыць — імёнамі першых рускіх святых: Барыса-Рамана і Глеба-Давыда. Хрысціянства ўжо ў той час пусціла глыбокія карані ў свядомасці палітычнай эліты Русі.

### Місія манаха Нікана

Расійскі даследчык летапісаў Аляксей Шахматаў адзначаў, што з пэўнага моманту ў «Аповесці мінулых часоў» сталі з'яўляцца падрабязныя даты падзей з указаннем месяца і дня: за 1061—1063 гады гэта тычыцца Кіева; за 1064—1066 — Тмутаракані; за 1067 — Полацкай зямлі; за 1068—1073 — зноў Кіева. У тых месцах дакладна ў такой паслядоўнасці з'яўляўся адзін з уплывовых дзеячоў Рускай царквы той эпохі, манах Кіева-Пячорскага манастыра Нікан. Гэта дае падставы лічыць Нікана аўтарам адпаведных запісаў летапісу.

Падзеі Кіеўскага паўстання 1068 апісаны так, што адчуваецца — аўтар сам назіраў за ім «з акенца гледзячы». Драматычныя падзеі 1067 г. вакол Менска таксама апісаны дэтальна: названая малая рэчка Няміга, паведамляецца пра вялікі снег падчас бітвы. Відавочна, апісваў сучаснік. Нікан мог быць у Полацкай зямлі недзе між 3 сакавіка і 10 ліпеня 1067.

Беларускі гісторык М. Бандзелікаў агучыў версію, што менавіта Нікан быў паслом Яраславічаў, што гэта ён пераканаў Усяслава сустрэцца каля Оршы. І крыжацалаванне Яраславічаў прымаў таксама Нікан. Таму можна зразумець яго абурэнне пасля: некалькі вялікіх абзацаў «Аповесці мінулых часоў» прысвечаны боскай кары, якая ўпала на Яраславічаў пасля зняволення Усяслава.

Падобна, што Усяслаў зрабіў на кіеўскага пасланца добрае ўражанне. На старонках летапісу, якія прыпісваюць Нікану, няма ніводнага радка, дзе б Усяслаў прыгадваўся ў адмоўным ключы. Магчыма, на ацэнкі паўплывала дзейнасць Усяслава па хрысціянізацыі Полаччыны.

Гэта важнае назіранне, бо дазваляе зразумець, як персанажы і якія падзеі полацкай гісторыі ўплывалі на стварэнне рускіх летапісаў. Бо на некаторых перыядах беларускай гісторыі толькі гэтыя летапісы застаюцца для нас адзінымі пісьмовымі крыніцамі.

## ІМПРЭЗЫ

### Даём рады

**1 лютага а 18-й у Re:Public (Прытыцкага, 62)** — фестываль «Даём рады». На адной сцэне сыграюць Akute, «Дай Дарогу!», :B:N:, Avias, Re1ikt і Clover Club.

### Ігар Ірценьеў

**6 лютага а 19-й у «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** — сустрэча з расейскім паэтам Ігарам Ірценьевым.

## ХАКЕЙ

### Тры гульні «Юнацтва»

Мінскае **«Юнацтва»** працягвае спаборнічаць ва Усерасійскай хакейнай лізе. На **31 студзеня** запланаваная гульня з «Іжсталлю» (Іжэўск), на **2 лютага** — з «Молатам-Прыкам'ер» (Перм), на **4-га** — з «Торасам» (Нефцекамск). Гуляе «Юнацтва» ў Лядовым палацы на Прытыцкага.

## КАНЦЭРТЫ

### Unia

**3 лютага а 18-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — LD Birthday party: гурт Unia і сябры.

### Трыб'ют Neuro Dubel

**7 лютага а 19-й у «Гудвіне» (пр.Незалежнасці, 19)** — канцэрт-трыб'ют Neuro Dubel. Бяруць удзел «Палац», «Йо-йо», The UNB, Blagi Mat.

### «Ляпіс Трубяцкой»

**8 і 9 лютага ў Санкт-Пецярбургу** — канцэрты гурту «Ляпіс Трубяцкой». З Беларусі арганізуюцца аўтобусныя туры.

### Канцэрт да 100-годдзя Лютаслаўскага

**2 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы Белдзярж-філармоніі** ансамбль салістаў «Класік-Авангард» прадставіць праграму, прысвечаную 100-годдзю з дня нараджэння польскага кампазітара і дырыжора В.Лютаслаўскага.

### Віктар Шалкевіч

**9 лютага а 19-й у ДК імя Шарко (Уральская, 3)** — канцэрт Віктара Шалкевіча.

### Добра тэмпераваны клавір

**5 лютага а 19-й у Малой зале імя Р.Шырмы** — «Добра тэмпераваны клавір» І.С.Ббаха. Выканаўца — лаўрэат міжнародных конкурсаў Арніс Зандманіс.

## ВЫСТАВЫ

### Скарбы Беларусі

**Да 22 лютага ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава «Скарбы Беларусі». На выставе можна ўбачыць найбуйнейшы ў краіне дэпазіт рымскіх дэнарыяў III–IV стст. — скарб ювелірных упрыгожанняў VI–VII стст. з гарадзішча «Выспянская гара».




### Свет шахмат



**Да 17 сакавіка ў Нясвіжскім палацы** працуе выстава «Свет шахмат» з прыватнай калекцыі Грыгорыя Пашкова. На выставе паказаныя 12 калекцый шахматных фігур.

### Малюнкі Гофмана

**У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа (Акадэмічная, 5) да 24 лютага** працуе выстава «Малюнкі Гофмана». Мінскі глядач упершыню пазнаёміцца з графічнымі работамі па матывах казак класіка нямецкай літаратуры.

### Душы маёй чароўны свет

**Да 17 лютага ў Гістарычным музеі** працуе выстава вышытых карцін «Душы маёй чароўны свет». На выставе прадстаўленыя палотны з матывамі прыроды, жаночых і дзіцячых вобразаў.

### «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне

**Да 25 лютага ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава «Паўлінка» — 100 гадоў на сцэне». На экспазіцыі прадстаўлены афішы, праграмы, эскізы, макеты дэкарацый і касцюмы да спектакля, а таксама асабістыя рэчы Паўліны Мядзёлкі, першай выканаўцы ролі Паўлінкі.

### Музычная паштоўка

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава музычных інструментаў з прыватнай калекцыі Дзмітрыя Ровенскага «Музычная паштоўка». На выставе прадстаўлены звыш 100 музычных інструментаў. Сярод іх гармонікі, баяны, акардэоны, акарыны, трубы, дуды, жалейкі, дудкі, басэтля, цытра, флейта, тамбурын ды іншыя.



**Шоу котак**

**2—3 лютага ў Мінску** пройдзе выстава-шоу котак. Месца правядзення: Палац спорту (пр. Пераможцаў, 4, ст.метро «Няміга»). Час працы для наведвальнікаў: 10.00—18.00.

### Беларускі кінематограф 1920-1930-х: афішы

**Да 31 сакавіка ў Музеі гісторыі беларускага кіно (Свярдлова, 4)** працуе выстава кінаплаката «Беларускі кінематограф 20-х-30-х гадоў XX стагоддзя». Экспазіцыя складаецца з 30 поўнафарматных і поўнакаляровых рэпрынтаў кінаплакатаў да беларускіх фільмаў 1926—1940 гадоў.

### Жывы вобраз

**Да 17 лютага ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава іканапісных твораў Алёны Гордан «Жывы вобраз», выкананых у аўтарскай тэхніцы «мінеральны россып». Выява ствараецца з дапамогай замацавання прыродных самацветаў і паўкаштоўных камянёў на тонкай пласціне белага мармуру.

## ТЭАТРЫ

### 31 студзеня

**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Іаланта»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Юнага гледача** — «Сіні аўтамабіль»

### 1 лютага

**Оперы і балета** — «Тамар. Шахеразада»
**Беларускай драматургіі** — «Адэль»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»

### 2 лютага

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Лялек** — «Асцярожна, свіння»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»

### 3 лютага

**Юнага гледача** — «Тры парсючкі»
**Лялек** — «Мыйдадзір»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Спартак»

### 4 лютага

**Купалаўскі** — «Не мой»

### 5 лютага

**Оперы і балета** — «Вяселле Фігара»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»

### 6 лютага

**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Віліcы»
**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Аднакласнікі»
**Купалаўскі** — «Лістапад. Андрэсэн»

### 7 лютага

**Лялек** — «Балада пра белую вішню»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Купалаўскі** — «Офіс»

### 8 лютага

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Лялек** — «Гісторыя аднаго горада»
**Оперы і балета** — «Манон Леско»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Вечар»

### 9 лютага

**Юнага гледача** — «Беласнежка і сем гномаў»
**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Беларускай драматургіі** — «Шчаслівы муж»
**Купалаўскі** — «Ноч на Каляды»

## КІНО

### «Лінкальн» Стывена Спілберга

**Лінкальн** (Linkoln)
ЗША, 2012, каляровы, 150 хв.
**Рэжысёр:** Стывен Спілберг
**Ролі выконваюць:** Дэніэл Дэй-Льюіс, Салі Філд, Дэвід Стрэтэйрн, Джозэф Гордан-Левіт, Томі Лі Джонс, Джэймс Спэйдэр
**Жанр:** Гісторыка-біяграфічная драма
**Адзнака:** 6 (з 10)

Аўраам Лінкальн, які завяршае вайну з мяцежнай Канфедэрацыяй, прапануе канстытуцыйную папраўку, што забараняе ўсялякае рабства. Але каб прыняць папраўку, яшчэ бракуе галасоў. І гэта апошнія месяцы жыцця Лінкальна.

Стужка Стывена Спілберга — найгрунтоўнейшая гісторыка-біяграфічная драма, з акцёрскай гульнёй, выверанай у кожным жэсце. Хаця фільм аздабляецца ваеннымі сцэнамі ў духу «Выратавання шарагоўца Раяна» — усё ягонае дзеянне разгортваецца ў парламенцкіх калідорах, на пасяджэннях, мітынгах і ў кулуарах. Спілберг, які 12 гадоў рыхтаваўся да стужкі, засяродзіўся на колькіх днях, што папярэднічалі рэвалюцыйнай падзеі. Героі, спісаныя з рэальных людзей, спрачаюцца, не зга джаюцца, пратэстуюць. Лінкальн, сыграны Дэніэлам Дэй-Льюісам, паказаны з замілаваннем і веліччу. Томі Лі Джонс падкупляе роляй Стывенса, а Салі Філд (Мэры Лінкальн) — пераканаўчая ў эмоцыях.

**Андрэй Расінскі**



# Як за тыдзень скінуць 5 кг?

Скінуць 5 кілаграмаў за тыдзень — рэальна. Журналіст радыё «Свабода» Віталь Цыганкоў расказвае пра ўласны досвед.

### Нармальна ясі, але худзееш

Я сядаю на так званую «японскую» дыету раз на адзін-два гады. Па сутнасці, гэта звычайная бялковая дыета. Ты не галадаеш пры ёй, ясі тры разы на дзень, але пры гэтым худзееш.

Сядаю на яе, бо лічу, што калі вага набірае тую ўмоўную адзінку, якая для мяне непрымальная, то трэба яе скінуць. Калі я пераходжу за 80 кг, то гэта ўжо занадта. Табліцы па аптымальнай вазе кажуць, што пры маім росце 179 см 82 кілаграмы — гэта ўжо першая ступень атлушчэння. Пры сваёй дыеце я скідваю 5—6 кг на тыдзень.

### Салідарнасць і падтрымка

Сяджу на гэтай дыеце разам з жонкай. Разам весялей, бо гатуецца адразу на дваіх і псіхалагічна так лягчэй, гэта ўсё ж такі салідарнасць і падтрымка.

### Як у арміі

Дыета патрабуе строгай вытрымкі рацыёну. Я трымаюся, спакойна праходжу міма сокаў, газіровкі, шакаладак, печыва, цукерак, якія ляжаць проста на кухонным стале. Я параўнаў гэта з арміяй, калі адключаеш нейкую тэму (напрыклад, сэкс) з галавы і проста пра гэта не думаеш. Ёсць і стымул — адчуваеш сябе героем, чалавекам з сілай волі.

### Тое нямногае, што можаш змяніць

Падчас гэтай дыеты я не змяняю стыль жыцця, стабільна два разы на тыдзень займаюся спортам. Адзін раз футбол, другі — баскетбол. Першыя два дні дыеты ў спалучэнні са спортам ужо далі мне мінус 3 кг. У мяне надта шмат тлушчу, і яго страту арганізм успрымае спакойна.

### Прынцыпы дыеты

Хуткае дзеянне японскай дыеты тлумачыцца тым, што яна з'яўляецца незбалансаванай і частае яе выкарыстоўванне карысці вашаму арганізму не прынясе. Такія дыеты з нізкім утрыманнем энергіі даволі папулярныя, бо гарантуюць хуткі вынік. Аднак дзеянне іх недаўгатэрміновае, калі пасля заканчэння дыеты не кантраляваць свой далейшы рацыён.

Але тым, хто ўсё ж такі вырашыць узяць прыклад з Віталя Цыганкова, мы прапануем меню дыеты.

Самае галоўнае ў японскай дыеце — дакладна выконваць рацыён па днях і не блытаць паслядоўнасць дзён, выкарыстоўваць толькі прадукты, названыя ў дыеце, і піць штодня паболып кіпячонай або мінеральнай вады (каля 1,5 літра).

**Вольга Гарапучык**



**Меню**

**1 дзень.** Сняданак: чорная кава. Абед: 2 звараныя ў крутую яйкі, салата са свежай капусты з раслінным алеем, шклянка таматнага соку або 1 свежы памідор. Вячэра: рыба смажаная або вараная, салата са свежай капусты і раслінным алеем.

**2 дзень.** Сняданак: чорная кава і сухарык. Абед: рыба смажаная або вараная, салата са свежай капусты з раслінным алеем. Вячэра: вараная ялавічына 200 г, шклянка кефіру.

**3 дзень.** Сняданак: чорная кава. Абед: сырое яйка, тры вялікія вараныя морквы з раслінным алеем. Вячэра: яблыкі.

**4 дзень.** Сняданак: чорная кава. Абед: адзін вялікі корань пастарнаку або пятрушкі, смажаны на раслінным алеі, яблыкі. Вячэра: садавіна.

**5 дзень.** Сняданак: сырая цёртая морква, запраўленая сокам цытрыны. Абед: вялікая рыба (500 г) смажаная або вараная, шклянка таматнага соку. Вячэра: садавіна.

**6 дзень.** Сняданак: чорная кава. Абед: 500 г варанай курыцы, салата з сырой морквы або свежай капусты. Вячэра: два яйкі ўкрутую, салата з сырой морквы з раслінным алеем.

**7 дзень.** Сняданак: гарбата. Абед: вараная ялавічына 200 г, садавіна. Вячэра: любы варыянт з рацыёну папярэдніх дзён, акрамя трэцяга.

## Уладальнікам электронных білетаў пашпарт больш не патрэбны

Чыгунка адмяніла бюракратычную працэдуру праверкі.

Беларуская чыгунка ўводзіць новыя правілы афармлення білетаў праз інтэрнэт. Згодна з імі, для пасадкі на цягнік дастаткова будзе паказаць праваднiку 14-значны код, які даецца пры электроннай рэгістрацыі білета на сайце http://www.rw.by/tickets/. Пра гэта паведаміла Галіна Рабушка, вядучая інжынерка пасажырскай службы. «Быў праведзены аналіз усіх няўручнасцей, усіх непаразуменняў, якія ўзнікалі», — сказала яна. «Калі пашпарт забыўся, але код ёсць, то пасажыра пасадзяць у цягнік», — падкрэсліла Рабушка. Гэты код вы можаце перадаць каму заўгодна.

Летась тэхнічна падкаваныя пасажыры набылі больш за 120 тысяч білетаў праз анлайн-сістэму продажу. Пасля спрашчэння правіл колькасць ахвотных скарыстацца такой паслугай рэзка ўзрасце.

**Аксана Рудовіч**

### Прыватныя абвесткі. Спачуванні родным Міхася Чарняўскага праз nn.by

Спачуванні яго блізкім і любімым людзям. І ўсім нам. Цяжкая навіна.

**Марына Азаронак**

Сумная навіна.

**Андрэй Чарнякевіч**

Шчыра смуткуем і спачуваем. Яшчэ адна страта для Беларусі. Адышоў сумленны патрыёт, цудоўны чалавек. Вельмі балюча.

**Святлана Радкевіч**

Нашыя спачуванні родным і блізкім!

**Сям'я Дзядовых**

Гісторыя Беларусі ў шасці тамах — выдатная кніжка! Дзякуй Міхасю Чарняўскаму!

**Радзівон Бягляк**

Светлая памяць! Цяпер зорка спадара Міхала будзе свяціць нам з нябёсаў. Апошні раз бачыла я Яго напрыканцы лістапада, зімным ранкам — ляцеў-уздымаўся па лесвіцы на свой трэці паверх Інстытута гісторыі з наборам інструментаў і ў поўнай амуніцыі, усім усміхаўся і раздаваў свае вітанні. Спачуванні ўсім родным і блізкім і асабліва спадарыні Святлане.

**Сям'я Лебедзяў**

Вялікая страта для Беларусі, для родных і блізкіх і ўсіх, хто меў зносіны з гэтым чыстым, светлым, інтэлігентным чалавекам. Спачуванні родным, светлая памяць.

**Алесь Чарняўчык**

Вялізарная страта для Беларусі. Меў шчасце асабіста пазнаёміцца з Чалавекам. Светлая памяць.

**Сяргей Пеляса**

Светлая памяць светламу чалавеку!

**Сям'я Садоўскіх**

Сумная навіна... Светлая памяць і знак вялікай пашаны высакароднаму чалавеку, выбітнаму гісторыку і адраджэнцу.

**Уладзімір Ляхоўскі**

Вечная памяць выбітнаму беларусу!

**Яўген Меркіс**

«Я не вучу вас, я толькі магу натхняць...» — так казаў сваім вучням Міхась Міхалавіч Чарняўскі.

**Ганка Жаўняровіч**

Ад імя гарадзенскіх археолагаў самыя шчырыя спачуванні родным і блізкім Міхася Міхалыча, усім патрыётам Бацькаўшчыны. Шкадуем, смуткуем, памятаем, молімся. Няхай родная зямля будзе пухам.

**Сяргей Піваварчык**

Ад нас сышоў нешараговы чалавек, сапраўдны вучоны, інтэлектуал, грамадскі дзеяч, адзін са стваральнікаў сацыял-дэмакратычнай Грамады і проста чулы, сумленны і добры чалавек. На ягоным жыццёвым шляху былі і выгнанне з Інстытута гісторыі за нацыяналізм (апошнія савецкія рэпрэсіі) і плённая праца па адраджэнні нацыянальнай свядомасці праз выданне кніг, археалагічныя раскопкі. Была і непрыкметная, але такая неабходная асабістая падтрымка нашых тытанаў — Уладзіміра Караткевіча і Ларысы Геніюш. Плача Беларусь разам з яго сям'ёй. Рэдка нараджаюцца такія волаты, як Міхась Чарняўскі.

**Сям'я Хадыкаў, Віктар Івашкевіч, Вінцук Вячорка**

Вечная памяць...

**Сяргей Запрудскі**

Светлы, сапраўдны, непахісны. Шчырыя спачуванні родным, усім хто ведаў, усім беларусам.

**Уладзімір Падаляка**

Шчырыя спачуванні!

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч**

Сумная навіна. Шчырыя спачуванні родным. Нас пакінуў вялікі патрыёт Беларусі.

**Леанід Гаравы**

Вечная памяць. Шчырыя спачуванні родным і блізкім, шчырыя спачуванні ўсёй Беларусі — адышоў адзін з лепшых яе сыноў.

**Ігар Лялькоў**

Мае спачуванні родным і блізкім! Фантастычны, мнагагранны, адукаваны, таленавіты чалавек. Меў гонар удзельнічаць са спадаром Міхасём і яго сынам у археалагічных раскопках на Гарадзеншчыне ў 2008 року. Тады Міхась Чарняўскі, знаходзячыся ўжо ў сталым узросце, махаў рыдлем у колькі разоў лепш чым мы, маладыя студэнты. Далучаюся да ўсіх спачуванняў, шкада, што адышоў такі светлы Чалавек.

**Зміцер Сухалет**

Вечная памяць!

**Аляксандр Пашкевіч — гісторык**

Шчырыя спачуванні родным. Вечная памяць. Моцы Максіму ў гэтыя цяжкія дні.

**Сям'я Салошкіных**

Балючая навіна, вельмі балючая. Міхась Чарняўскі — найвыдатнейшая асоба ў беларускай гісторыі, сапраўдны беларускі нацыяналіст, інтэлігент, дэмакрат. Чалавек перакана괵ы, светлы, добры. Чалавек, які любіў Беларусь і жыў для яе. Міхась — ідэал беларускага нацыянальнага змагара, які шмат зрабіў і рабіў так, што меў галоўным чынам сяброў і прыхільнікаў, а не супернікаў і ворагаў. Заўжды паважаў, вучыўся ў яго, імкнуўся шмат што пераняць. Вельмі блізкі па духу, таму так балюча, што яго ўжо няма. Спачуванне родным. Ніколі яго не забудзем. Жыве Беларусь!

**Валянцін Голубеў**

Светлая памяць. Шчырая памяць. Адзін з тых нешматлікіх, хто быў у маіх вачах сапраўднымі волатамі, багамі і героямі. На аднаго стала менш. Яшчэ на цэлага аднаго стала менш. І ўжо хутка іх, волатаў, багоў і герояў, не застанецца зусім.

**Сяргей Егарэйчанка**

Вечны адпачынак дай яму Пане, а святло вечнае няхай яму свеціць. Няхай спачывае ў спакоі вечным.

**Сям'я Равякаў**

Вечная памяць і смутак па страце такога Чалавека.

**Лявон Баршчэўскі**

Адышоў вельмі светлы чалавек. На такіх, як спадар Міхась, Беларусь і трымаецца. Светлая памяць...

**Алесь Смалянчук**

Requiescat in Pace.

**Stralcou-Karwacki**

Шкада... Шчырыя спачуванні родным і блізкім. Дзякуем, спадар Міхась, за навуковую спадчыну, што нам пакінулі. За шчырую любоў да Беларусі. Вечная і светлая Вам памяць.

**Людміла Рогач**

Спадар Міхась перадаў большасці з нас, беларусаў, упэўненасць, навучыў не толькі марыць, але жыць Радзімай і дзеля Радзімы. Як археолаг і гісторык прафесійнага падыходу да выканання сваіх абавязкаў. Нас пакінуў Анёл... У памяць пра гэтага цудоўнага, унікальнага чалавека мы ўсе павінны яшчэ быць больш моцнымі і аб'яднанымі дзеля шчасця, свабоды і радасці ў на роднай беларускай зямлі. Вечны спакой дай яму, Божа!

**Альбіна і Генадзь Семенчукі**

Выбітнейшая асоба для нашай гісторыі. Светлая яму памяць.

**Андрусь Няверны**

Дарагія родныя спадара Міхася, нам было балюча даведацца гэтую навіну. Спадар Міхась быў нашым выкладчыкам у Акадэміі мастацтваў у пачатку 1990-ых. Ён вельмі паўплываў на нас, тады студэнтаў, сваімі поглядамі, адкрыў нейкія важныя рэчы, што датычаць нацыянальнага. Штосьці з таго, пра што ён гаварыў тады і што мы самі ведалі з яго нялёгкага лёсу небаязлівага чалавека, успаміналася і пазней, у больш сталым узросце. Не верыцца ў яго смерць. Яшчэ нядаўна спадар Міхась казаў, што наступным летам паедзе на раскопкі ў сваю родную вёску і абяцаў узяць Віктара з сабой. Сёння мы ўсёй сям'ёй — і нашы бацькі, і дзеці — смуткуем і падзяляем ваша гора. Мы рады, што наш малодшы сын вучыўся разам з унучкай такога дастойнага беларуса. Наша шчырая ўдзячнасць і вечная памяць шаноўнаму спадару Міхасю.

**Вольга Дашук, Віктар Аслюк і ўся іх сям'я.**

У 1974 годзе тое было ці 1973, але паехаў я з Ф.Д.Гурэвіч і Міхасём Чарняўскім на разведку ў адну з прыгарадных Навагрудку вёсак. Пахадзілі, пагаварылі з дзедам, што сядзеў курыў, паехалі назад. Ты зважай — раптам кажа Міхал Міхайлавіч — той дзед, ён які шляхетны, ён жа як Буда! І пра самога Чарняўскага зараз так скажам.

**Мікола Нікалаеў, Санкт-Пецярбург**

Далучаюся да найвысокай ацэнкі выбітнай постаці Міхася Чарняўскага як Навукоўца, Беларуса, Чалавека. Дзякуй Богу, што дае нам такіх Асобаў! Дзякуй Спадару Міхасю за ўсё, што зрабіў для Беларусі (у тым ліку за кнігу і фільм «Як пошуг маланкі» пра Расціслава Лапіцкага). Шчырыя спачуванні родным і блізкім. Светлая памяць.

**Іна Соркіна**

Памятаем Міхаіла Міхайлавіча і смуткуем па ім. Светлая памяць светламу чалавеку.

**Сяргей Бялецкі**

Светлая памяць і шчырая ўдзячнасць за сяброўства, падтрымку і плённую супрацу. Памяць назаўжды.

**Ала і Сяргей Ваганавы**

Сябры Аргкамітэта па аднаўленню БСДП(НГ) спачуваюць родным, сябрам і знаёмым Міхася Чарняўскага. Беларусь страціла вядомага археолага, кандыдата гістарычных навук, палітыка, адраджэнца Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, яе духоўнага стрыжня, шчырага і сціплага чалавека.

**Алесь Арастовіч, намеснік Аргкамітэта па аднаўленні БСДП(НГ).**

Асабіста пазнаёмілася са спадаром Чарняўскім у маладзечанскім архіве, дзе ён шукаў звесткі аб роднай Мядзельшчыне. Апошні раз бачыла на факультэцкім пасяджэнні, куды Міхась Міхайлавіч прыйшоў, толькі вярнуўшыся з раскопак, якуя ў адпаведнай вопратцы. У мяне засталося ўражанне ад яго як ад сціплага, але сапраўднага героя, які шмат зрабіў для Беларусі, але ніколі не «выстаўляў» гэтага. Смутак у сэрцы і слёзы на вачах. Вечная памяць спадару Міхасю Чарняўскаму, выбітнаму навукоўцу і свядомаму беларусу!

**Марыя Якаўцова**

Вялікія людзі нараджаюцца раз у стагоддзе і сыходзяць, пакінуўшы яскравы след на нашай зямлі. Міхаіл Міхайлавіч быў такім чалавекам. Смуткую разам з блізкімі, роднымі і ўсімі, хто меў шчасце быць знаёмым і працаваць з гэтым цудоўным чалавекам.

**Бубнько Таццяна**

Сябры БСДП нізка схіляюць галовы перад памяццю Міхася Міхайлавіча Чарняўскага — ініцыятара адраджэння беларускай сацыял-дэмакратыі, патрыёта Бацькаўшчыны, чалавека высокіх маральных якасцяў, які да канца захоўваў вернасць ідэалу незалежнай дэмакратычнай сацыяльнай прававодй Беларускай дзяржавы, зрабіў дастойны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры і навукі.

**Ірына Вештард, Мечаслаў Грыб, Ігар Барысаў, Валянціна Болбат, Андрэй Казановіч, Ганна Канюс, Ігар Маслоўскі, Аляксей Сігаеў, Анатоль Сідарэвіч, Аляксандра-Вольга Тыгрыцкая, Алег Шабетнік, Анатоль Юрэвіч.**

Заводская раённая арганізацыя БСДП у глыбокім смутку. Ад нас пайшоў заснавальнік арганізацыі і яе першы старшыня, шчыры і надзейны таварыш, чалавек, глыбока аддадзены каштоўнасцям сацыял-дэмакратыі, ідэалу незалежнай дэмакратычнай сацыяльнай прававодй Беларусі. Светлы вобраз Міхася Міхайлавіча назаўсёды захаваецца ў нашай памяці, у памяці тых людзей, якія прыйдуць у нашу арганізацыю.

**Заводскі раённы камітэт БСДП**



БЕЛАПАН

Міжнародныя спаборніцтвы па зімовых відах спорту «Завіруха-2013» прайшлі 26–27 студзеня ў спарткомплексе «Раўбічы». Спаборніцтвы ездавых сабак сабралі сотні гледачоў.



REUTERS

Як у Сярэднявеччы: сям'я дваццаць гадоў жыве ў зямлянцы. Тамара і Юры Байковы жывуць у лесе недалёка ад беларускай вёскі Юхвічы, на самай мяжы з Расіяй. Яны выправіліся шукаць шчасця ў глухі кут Беларусі амаль адразу пасля развалу СССР, спадзяваліся, што іх справы пойдуць угару і часовая зямлянка ператворыцца ў вялікі прыгожы дом, які можна будзе пакінуць дзецям. Хоць гаспадарка за 20 гадоў разраслася так, што Тамара і Юры могуць самі забяспечваць сябе прадуктамі, мары аб доме засталіся толькі марамі.




У Мінску з'явілася графіці ў гонар 150-годдзя з пачатку вызвольнага антырасейскага Паўстання 1863 года. Зрабілі надпіс фанаты мінскага «Дынама».



НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА

У памяшканні «Залатога кола Віцебска «Дзвіна» прайшла калядная абрадавая гульня «Жаніцьба Цярэшкі».

## Анекдоты і жарты

* * *

Хочаце выклікаць у хлопца адначасова два пачуцці — нянавісці і захаплення? Выдрапайце на капоце ягонага аўтамабіля «У сэксе ты найлепшы!!!»

* * *

Вучаніца беларускамоўнай школы Марта рабіла заданне па рускай мове. Слова «лягушка» яна напісала праз Ж як «лягужка». На заўвагу бацькоў пра памылку адказала, што скарысталася праверачным словам. Якім? «Жаба».

* * *

Дырэктар начальніку аховы новага мясакамбіната:

— Узмоцніце ахову склада, каб усялякая шпана з вуліцы нашу каўбасу не крала.

— Паставілі ўжо. А вось на прахадной аховы няма, трэба было б паставіць.

— Не трэба. Работнікі ведаюць, з чаго наша каўбаса робіцца, красці не будуць.

* * *

— Радавы Раманкевіч! Вы стаіце на варце і бачыце, што да вас падпаўзае чалавек. Вашы дзеянні?

— Адвяду нашага камандзіра роты дадому.

* * *

На сямейным фотаздымку мерчандайзера самыя прыгожыя дзеці стаяць у першым шэрагу.

### Конік

У нашых Ждановічах колькі санаторыяў, абседжаных, зразумела, расейцамі.

У «Дарорсе», ля прылаўка з цукеркамі, чую дыялог:

— Ізвініте, пожалуйста, а почему на конфетах нарісован кузнечік, а оні називаются «Конік»?

— А потому что вы в Беларусі!

**Наталка Бабіна**

## «НН» сто гадоў з вамі

**Вільня.** У праваслаўных духоўных кругах паўстаў праект, каб адкрыць у Вільні духоўную акадэмію для Беларусі і Літвы, а найбольш дзеля змагання з каталіцтвам.

**«НН». №5. 1913.**

**Беларусь рассталася з Уладзімірам Мулявіным.** У чарзе стаялі людзі розных поглядаў і пакаленняў. Новая нацыя сплаўленая ў катле XX ст. Яе геніяльны песняр Уладзімір Мулявін стаў такой самай часткай гісторыі, як Сцяпан Батура, Наталля Арсеннева. Мільёны людзей адкрылі для сябе Беларусь у тыя гады. З пабытовага і звыклага для абарыгенаў ён граніў дыяменты высокага мастацтва. У тым ён роўны мастакам эпохі Адраджэння.

**«НН». №4. 2003.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8085. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 29.01.2013.
Замова №161.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13004